Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 13 сакавіка 1987 г. № 11 (3369) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# КАБ СПЯВАЛІ ЛЮДЗІ

Глядзеў 16 лютага перадачу Беларускага тэлебачання пра сямейны ансамбль Бацяноўскіх. Маю цяпер час на роздум, бо лячуся ў санаторыі «Крыніца», вось і падштурхнула мяне гэтая перадача напісаць вам...

Я глядзеў на бацьку і братоў Бацяноўскіх, слухаў, як хораша яны іграюць, зайздросціў ім і думаў пра сваё. Упэўнены, што таленавітых і неабыякавых да народнай культуры людзей у нас шмат. Бяда толькі ў тым, што аб'яднаць такіх людзей, кіраваць самадзейнымі ансамблямі часта няма каму.

Вось, напрыклад, наш калгас. Эканамічна моцная гаспадарка, знаходзіцца ў маляўнічых мясцінах Гомельшчыны. А які прыгажун Днепр падзяляе гаспадарку сваім магутным рэчышчам! Тут і пляжы, і рыбалка, лугі і лясы, багатыя грыбамі і ягадамі. І вёска наша Левашы, што стаіць на дняпроўскай строме, — з магазінам, дзіцячым садам, школай, прыгожым Домам культуры. Усё добра, толькі няма ў нашым Доме культуры добрага гаспадара... Хацелася б, каб быў гэта чалавек неабыякавы, каб ведаў ён народныя песні і танцы, традыцыі, каб сам валодаў музычным інструментам і змог аб'яднаць таленавітых людзей (а такія ў нас ёсць). Каторы ўжо год мы без такога кіраўніка. Аднойчы нават самому давялося арганізоўваць фальклорны ансамбль...

Лічу, што самадзейнасць людзей, развіццё іх творчых здольнасцей дапамагае лепш працаваць, змястоўна жыць і адпачываць. Чалавек павінен раскрывацца сваімі талентамі як у працы, так і ў адпачынку. Усё гэта мы добра разумеем, але добрага культработніка сабе ніяк падабраць не можам. Хацелася б, каб пацягнуліся людзі ў клуб, каб ён сапраўды быў Домам культуры. Добрай кватэрай і зарплатай мы забяспечым такога чалавека, нават дваіх.

Крыўдна бывае, што спецыялісты асядаюць у горадзе і не едуць у вёску, дзе цяпер самае бурнае жыццё, дзе такое багацце народнай творчасці, дзе нават лепшыя, чым у горадзе, ўмовы для маладых спецыялістаў.

Чаму я зайздросціў, калі глядзеў перадачу пра Бацяноўскіх? Гэта ж і ў нас мог быць не адзін сямейны ансамбль. Чаму ж культасветвучылішчы, рыхтуючы спецыялістаў, не вучаць іх іграць на музычных інструментах? Гэта ж—першая справа для вясковага клубнага работніка. І, галоўнае, каб умелі маладыя выпускнікі зразумець душу народа, якая ў песні, у музыцы. Гэта ж такая прыгажосць, якая жыве ў народзе і перадаецца ад дзядоў сынам і ўнукам.

Усе, хто глядзеў гэтую перадачу БТ разам са мной у санаторыі «Крыніца» (а ў большасці гэта працаўнікі сельскай гаспадаркі), захапляліся, нават падпявалі, бо песні, якія называў Бацяноўскі-бацька, многім добра вядомыя. І тое, што Бацяноўскія самі і гармонікі сабе зрабілі, — цудоўна. Таленавітыя нашы людзі! Трэба толькі іх арганізаваць, стварыць добрую абстаноўку для творчай дзейнасці. Можа, хто адгукнецца на маё запрашэнне і прыедзе ў наш калгас? Вёсцы цяпер патрэбна дзейсная дапамога кадрамі, добрымі кадрамі культработнікаў, каб ігралі гармонікі ў кожным сяле, каб спявалі людзі.

**Р. ШПАКАЎ,**
**старшыня калгаса «50 гадоў Кастрычніка» Рэчыцкага раёна.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** Вось так, досыць незвычайна адгукнуўся на тэлеперадачу старшыня калгаса... Вядома, мы маглі б пераадрасаваць гэты ліст у Міністэрства культуры рэспублікі ці проста ў адну з навучальных устаноў, якая рыхтуе клубных работнікаў — і, напэўна, ужо нават пры сёлетнім размеркаванні выпускнікоў знайшлася б магчымасць накіраваць маладога сцецыяліста ў калгас «50 гадоў Кастрычніка». Але «душэўная» просьба старшыні ўсё-такі вымагае не афіцыйнага разгляду. Таму мы вырашылі звярнуцца да нашых чытачоў, сярод якіх нямала культасветнікаў, з пытаннем-прапановай:

— Хто адгукнецца на запрашэнне Р. Шпакава?



Выступаюць «Пралескі» фальклорна-этнаграфічны ансамбль Гомельскага педагагічнага вучылішча.

Фота А. РУДЧАНКІ

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Сяргей ПАНІЗНІК**



### *Шчыруе дзень*

Дуброва? Апілкі і трэскі...
Пасля ўжо і вёску змяло.
А ў Полацку вечныя фрэскі?
Вы чулі ў Міры дзікі трэскат?
Вякоўнае—пад памяло...
А час ужо нам узвышацца
над таннай выгодаю дня...

Мне ў помач
не хоча знішчацца
раструшчаная цішыня.

Мне ў помач
не хоча быць мёртвай
далёкая мова зямлі.

Яна падымала кагорты,
склікала сям'ю да сям'і,—
а сёння—
ці на пасадзе?

Як быццам,
за гультая...
І я вінаваты у здрадзе,
о родная мова мая.

Мы ўсе вінаваты у страце.
Бо хто асвяціў нам правы
на кожны рубель у зарплаце
і на прывілей дармавы?

І мове патрэбны прысады
вечназялёных крон.
Любая ў краіне пасада—
высокі дзяржаўны трон.
Правы ёсць. І ёсць абавязкі:
каб жыць і тварыць—
для людзей.

Мне ў помач
зрывае павязкі—
з бяспамяцтва — дабрадзей.

Мне ў помач
не хоча быць вінным
сумленне і гордасць чала.

І так працаваць я павінен—
як толькі шчыруе пчала.

### *Смеласць*

Жыццё—ляціць...
Бяжыць...
Паўзе...
Звініць ільдзінкамі...
А я асмеліўся—і ўсе
спыніў гадзіннікі.

І вось гадзіннікі стаяць.
Гадзіны на мяне глядзяць,
як я на працы цікаю.
А сэрца-маятнік—
«цік-так»,
пытаецца ў мяне:
«Ці так
жывеш,
пра што ты сёння ціўкаеш?»

Штосілы дзінькаю-пяю
абараняючы зямлю
мясцінамі прыгожую.
Я выяўляю, дзе дзікун,
далёка спусташальны гун
з душой перакарожанай?

І ўсё ж на смеласць я грашу.
Асмеліцца б на ўсю душу,—
паўстаць з раба лапцюжнасці.
Рві, смеласць,
шоры вузкасці!

Бо смеласць—
спеласці працяг.
І людзям
дораг будзе
сцяг
братэрскай беларускасці.

### *У зоне Чарнобыля*

Яшчэ Матросавы не спісаны.
Як дзот—
Няшчасце шчэрыць зубы:
і верталётчыкі завіслі
над ядзернаю
амбразурай.

Гляджу на хлопцаў:
«Знацца хочацца
з дазіметрычнымі прыборамі?»
Ваюем не з бядой прарочаю,
ваюем з нечаканым горам.

Бой за жыццё, яго
выжарыны,
пустэльнасць вёсак
беларускіх...
Што можа быць з планетай-
шарыкам,
калі не кроў у сэрцы—
згустак?

А над усімі кантынентамі
заціхне чалавечы голас?

....Лячу, лячу дарогай-лентаю.
Духмяна спее жытні колас.

Якое шчасце—з працы
цешыцца,
надзею мець: вайны не будзе...
А боль чарнобыльскі,
ён сцішыцца:
мацней каварнай сілы—людзі.

Астыне джала радыяцыі
над Брагінкаю, над Славечнай...

І хоць прыходзіцца баяцца тут:
«А як мы заўтра будзем
звацца?»,—
надзея
сэрца маё лечыць.

Жылі і жыць мы будзем вечна!

Гомельская вобл.,
жнівень 1986 г.

### *Анамнез вітэ**

Быў. Ёсць. Буду.

У. КАРАТКЕВІЧ.

Боль кінжальны.
Рывок:
«Скарыцца?
Прад халоднаю нематой?»
Паміраў адзінокі рыцар
з донкіхотаўскай праватой.

Смерць дачасная,
ды—прычасная
да усіх папярэдніх дзей.
Ах, як часта
бярэ, пакручастая,
маладзейшага
маладзей.

Столькі ўрокаў
і столькі жалю,
і запозненых горкіх слоў.
...Незапоўненыя скрыжалі
перапоўніла
смерць сыноў.
Крэп зямлі.
Туманоў прывіды...
Беларусь—як дзіцё спавіта
летапісным прароцтвам сноў.
Мы—уток для яе асноў.

---

* Анамнез вітэ (лац.) – Прыпамінак жыцця.

## ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# З НАШАЙ МАЎКЛІВАЙ ЗГОДЫ?

У РЭЯ БРЭДБЕРЫ ёсць апавяданне «І грымнуў гром» — трывожнае папярэджанне аб тым, якое грымотнае рэха ў вяках, якія непрадбачаныя і непажаданыя вынікі для ўсёй зямной цывілізацыі можа выклікаць знішчэнне адной-адзінай расліны, жывёлы, нават матыля. Вялікі фантаст аперыруе глабальнымі часавымі катэгорыямі, але мае на ўвазе сучаснасць. Бо сёння чалавецтва ўзброена такой магутнай тэхнікай, і яго ўмяшанне ў прыроду праводзіцца ў такіх вялікіх маштабах, што мы маем горкую магчымасць не толькі прадчуваць, але і бачыць, адчуваць негатыўныя вынікі гэтага ўмяшання.

Літаральна на памяці аднаго пакалення непазнавальна змянілася экалагічная абстаноўка на Зямлі, знікла беззваротна шмат лясоў, азёраў, відаў раслін, жывёл і птушак... Здавалася б, гэта павінна навучыць нас мудрасці, абачлівасці, гаспадарлівай беражлівасці ў адносінах да прыроды. Але пакуль не навучыла, наадварот — размах нашай, часта бяздумнай, пераўтваральніцкай дзейнасці ўсё павялічваецца, і ўжо не ў галаве нейкая птушка ці дрэўца, калі высякаюцца тысячы гектараў лесу, асушаюцца ці, наадварот, затапляюцца цэлыя вобласці, балоты пераўтвараюцца ў пустыні, а пустыні — у балота, паварочваюцца і спрамляюцца вялікія рэкі. Так, напрыклад, па дадзеных, надрукаваных у часопісе «Наш современник», № 1, 1987 г., «у нашай краіне ўжо затоплена 2600 вёсак і 165 гарадоў. Плошча пад існуючымі і праектуемымі вадасховішчамі па сумарных памерах набліжаецца да плошчы такой дзяржавы, як Францыя». Можа, варта было б спыніцца, агледзецца, задумацца, ці вырашае нашы эканамічныя праблемы страта самага каштоўнага, што дала нам прырода, — зямлі?

На жаль, затапленне працягваецца і яго чарговай ахвярай становяцца паўночна-заходнія раёны Віцебскай вобласці і раёны Латвіі. У навагоднім нумары штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» з'явіўся далёка не святочны артыкул М. Замскага «Затапленне», дзе ішла размова пра лёс Заходняй Дзвіны і Прыдзвіння, — там, як высветлілася, яшчэ на пачатку 70-х гадоў запланавана будаўніцтва яшчэ адной гідраэлектрастанцыі, хоць на рацэ ўжо маецца іх цэлы каскад. Гэтая ж праблема востра ўздымаецца ў артыкуле латышскіх літаратараў Д. Іванса і А. Сніпса «Засакрэчаны праект», надрукаваны ў «Литературной газете» ад 28 студзеня 1987 г.

Што ўстрывожыла публіцыстаў? Па-першае, маральная ўстарэласць, навуковая і эканамічная неабгрунтаванасць праекта, дзе не ўлічаны як след ні мясцовыя прыродныя ўмовы, ні сучасная экалагічная абстаноўка, а ўсё зроблена прыблізна, на авось, па прынцыпу «вада — пакажа». А таму, па меркаванні латышскіх вучоных, «зона затаплення» на практыцы можа аказацца ў 2—3 разы большай, чым запланаваная. Але ж і тое, што запланавана, не можа не ўстрывожыць — двухсоткіламетровае вадасховішча ў рэчышчы Заходняй Дзвіны паставіць пад пагрозу затаплення толькі з беларускага боку частку чатырох раёнаў Віцебскай вобласці, трэба будзе перанесці тысячы збудаванняў, эвакуіраваць тысячы людзей. А якая кампенсацыя? Як вымушаны быў сказаць карэспандэнту «ЛіМа» начальнік аддзела энергетыкі Дзяржплана БССР: «ад Даўгаўпілскай ГЭС нашай рэспубліцы не будзе амаль ніякай карысці». Дык, можа, будзе вялікі эканамічны эфект для народнай гаспадаркі нашых латышскіх сяброў? Але ж, не. Латышскія літаратары аргументавана даказваюць, што нават у чыста эканамічным плане будаўніцтва новай ГЭС для іх рэспублікі нявыгадна—выдаткі пераўзыходзяць прыбыткі.

Але ж ніхто не падлічваў страты экалагічныя. Даўгава, Дзвіна, сама назва якой паходзіць ад слова «двигаться», цячы, спыненая дамбамі,ператворыцца, па словах журналістаў, «у смуродны кісель сіне-зялёных водарасцяў». Грунтовыя воды, якія ў гэтых раёнах залягаюць вельмі блізка да паверхні, могуць падтапіць наваколле — ля вадасховішча можа ўтварыцца шмат кіламетраў непраходнага балота (так, дарэчы, і здарылася ў Латвіі пасля будаўніцтва на Даўгаве каскада ГЭС). А парушэнне экалагічных асаблівасцей не толькі такой прыгожай, па-свойму унікальнай ракі, як Дзвіна, але і дзесяткаў звязаных з ёю маленькіх рачулак прыдзвінскай зямлі, якое непазбежна павядзе за сабой гібель рыбы, жывёльнага і расліннага свету?

А хто падлічыў культурна-гістарычныя страты — зняверчанне дамбамі аблічча старажытных беларускіх гарадоў Верхнядзвінска, Друі, Дзісны, гарадзішчаў, замчышчаў, старажытных курганоў, у тым ліку аднаго са славутых «Барысавых камянёў», перасяленне вёсак, кожная з якіх мае свае традыцыі, песенныя скарбы, сацыяльны мікраклімат, духоўнае адзінства, парушэнне спрадвечнай сувязі людзей з гэтаю зямлёй?

Заходняя Дзвіна — Даўгава спрадвеку была той важнай артэрыяй, якая злучала, кроўна радніла тры братнія народы — рускі, беларускі, латышскі, была ім аднолькава дарагая як увасабленне народнага духу, гісторыі, традыцый. Як жа здарылася, што лёс яе, тайком ад народа, вырашаюць у «засакрэчаных праектах» толькі тэхнічныя арганізацыі, якія кіруюцца сваімі вузкаведамаснымі інтарэсамі — выканаць план, асвоіць капіталаўкладанні, для якіх Дзвіна з яе непаўторнай прыгажосцю, якой любаваўся Рэпін, — толькі кубаметры вады, а прырода, гісторыя, культура, чалавечыя лёсы — раўнадушна абведзеная алоўкам «зона затаплення»? Чаму адказныя асобы рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў, не ўзважыўшы як след усе «за» і «супраць», паставілі пад праектам абыякавае «не возражаем»? Чаму, урэшце, і цяпер гэты праект трымаецца за сямю замкамі, не выносіцца на шырокае абмеркаванне?

Несумненна, гэта водгукі часоў эканамічнага і духоўнага застою грамадства, калі занядбанне прынцыпаў дэмакратызму і галоснасці, вузкая ведамаснасць у гаспадаранні прывялі да таго, што чалавек быў практычна пазбаўлены права вырашаць лёс сваіх рэк, лясоў, гарадоў і вёсак, помнікаў гісторыі і культуры — і ў выніку перастаў адчуваць сябе гаспадаром на зямлі. А гэта прывяло да паступовага «падтаплення», забалочвання душы—мяшчанскага спажывецтва, раўнадушша і абыякавасці, абывацельскай філасофіі: «на наш век хопіць». Але ж, аказалася, і на наш век ужо не хапае, а што ж застанецца нашчадкам, нашым дзецям, чыю спадчыну мы так бяздумна спажываем і марнуем?

Зразумела, экалагічныя праблемы цяжка вырашыць без перабудовы свядомасці грамадства і чалавека, без «экалогіі душы». І мы ўжо на кожным кроку адчуваем жыватворнае ўздзеянне перабудовы, «свежага ветру перамен». Варта прывесці словы М. С. Гарбачова з заключнага выступлення на студзеньскім Пленуме ЦК КПСС: «Камуністычная партыя цвёрда стаіць за тое, каб народ ведаў усё. Галоснасць, крытыка і самакрытыка, кантроль мас — гэта гарантыя здаровага развіцця савецкага грамадства. У нашай дзяржаве — дзяржаве рабочых і сялян — народу да ўсяго ёсць справа, бо гэта яго дзяржава».

З гэтых прынцыповых пазіцый дэмакратызму і галоснасці павінны вырашацца ўсе важныя народнагаспадарчыя пытанні, у тым ліку і будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Але ці выкарыстоўваем мы дадзеныя нам правы? У Латвіі грамадская думка актыўна ўзнялася на абарону Даўгавы, і ёсць ужо пэўныя вынікі: экспертная камісія ставіць перад урадам пытанне аб мэтазгоднасці будаўніцтва ДГЭС. Навуковыя і грамадскія арганізацыі прапаноўваюць і рэальныя сродкі вырашэння энергетычнай праблемы. Аб сіле грамадскай думкі можна меркаваць па тым, што ўсё ж спыніла яна рэалізацыю праекта перакідвання на поўдзень паўночных, сібірскіх рэк, паспяхова вядзе барацьбу за Байкал, за Няву, за многія іншыя прыродныя зоны, якія аказаліся ў небяспецы. Асабліва вялікая роля ў гэтай справе людзей, якія маюць высокі грамадскі аўтарытэт: вучоных, пісьменнікаў. Прычым, пісьменнікі дзейнічаюць не толькі мастацкім, але і публіцыстычным словам, прымаюць канкрэтныя практычныя захады. Так, напісаўшы «Развітанне з Мацёрай», В. Распуцін не стаў чакаць, пакуль давядзецца пісаць «Развітанне з Байкалам», а зрабіў усё магчымае, каб прадухіліць бяду, якая навісла над ім. Шмат робяць у гэтым плане С. Залыгін, В. Астаф'еў, іншыя пісьменнікі. У першым нумары «Нового мира» за гэты год С. Залыгін якраз і піша аб пагрозе затаплення прыдзвінскай тэрыторыі. Паўстае пытанне: ці многія беларускія літаратары займаюць па гэтай праблеме актыўную грамадскую пазіцыю, да якой заклікаюць у творах? Ці шмат зрабілі для абароны Палесся? Бо часта літаратура толькі аплаквае загінуўшую прыроду, замест таго, каб за яе змагацца. Вось і цяпер, перад новай экалагічнай пагрозай, голас нашай літаратуры, грамадскасці пакуль што не надта гучны, быццам Дзвіна і Прыдзвінне — гэта не наша зямля, прырода, культура, гісторыя, не частка душы нашага народа. Ці мы чакаем, пакуль цудоўны Прыдзвінскі край спасцігне горкі лёс Палесся? Злачынна затапляць акультураныя, прыдатныя для земляробства землі ў той час, калі спустошаны, згублены прычарнобыльскія землі.

**Супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР: А. АДАМОВІЧ, П. ВАСЮЧЭНКА, Л. ГАРАНІН, Т. ГРАМАДЧАНКА, Э. ГУРЭВІЧ, А. ГУРСКАЯ, В. ЖЫБУЛЬ, В. КОЗІЧ, А. МАЛЬДЗІС, М. МУШЫНСКІ, М. ТЫЧЫНА, Т. ЧАБАН, і іншыя — усяго 26 подпісаў.**

# ЦІ НЕ ЗАШМАТ ПАМЫЛАК?

**Паважаная рэдакцыя! Прачытала ў першым нумары «ЛіМа» за гэты год нарыс «Затапленне» і амаль тыдзень разважала, пісаць вам ці не. Ці будзе карысць з майго ліста, калі вось яно, вадасховішча, будуецца і Міністэрства энергетыкі шчодра фінансуе гэтую шкоду з нашых з вамі кішэняў?**

**Хачу вам выказаць вялікую падзяку за слова праўды, з якім выступілі вы наконт гэтага «праекта» — відавочнага шкодніцтва на нашай зямлі. Зноў нехта «памыліўся», «не заўважыў», «не ўлічыў». Дарэчы, у «Гідрапраекта» такіх «памылак» ужо зашмат, чаму ж ён на іх не вучыцца? Ды ці хоча вучыцца? — Вось у чым пытанне. Часопіс «Наш современник» ужо друкаваў матэрыялы наконт яго «дзейнасці» на Волзе і ў Сібіры.**

**Не шкодзіла б таварышам з міністэрстваў, у якіх не знайшлося пярэчанняў да праекта, падумаць пра заўтрашні дзень сваёй зямлі, а не жыць толькі днём сённяшнім, быццам не кіраўнікі яны, а эфемерыды. Каб не прыйшлося потым гадоў праз пяць-дзесяць зноў у друку чытаць «беспадстаўнасць», «безадказнасць» і гэтак далей.**

**Т. РАДНІКІНА, інжынер.**

г. Мінск.

**Усё больш і больш мастацкай літаратуры залежваецца ў кнігарнях. Што ж рабіць, як выправіць становішча? Гэтае трывожнае пытанне, што прагучала ў дыялогу Раісы Баравіковай і Міхася Тычыны («ЛіМ», 26.II.86), стала тэмай роздуму і для А. Сямёнавай («ЛіМ», 26.XII.86). «...Шэрасць, мастацкая невыразнасць супрацьпаказаны кнізе», — адзначалася ў артыкуле крытыка. Але, тым не менш, чытачу нярэдка прапануецца менавіта такая прадукцыя. У чым прычына гэтай з'явы?**

**У гаворку, пачатую пісьменнікамі, уключаюцца і выдаўцы. Пра складанасць узаемаадносін аўтараў і выдавецтва, пра аб'ектыўныя і суб'ектыўныя цяжкасці гаворыць сёння галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва» Яўген Каршукоў.**

# Скажы, хто твой аўтар

## ПРА СПРАВЫ ВЫДАВЕЦКІЯ

Сягоння ўжо нікога не здзівіш імкненнем глыбей разабрацца ў сутнасці тых прычын, што замінаюць справе, якую ты робіш.

І мне, як выдавецкаму работніку, хацелася б выказаць пэўныя меркаванні наконт выдання дзіцячай кнігі, той кнігі, якую патрабуе сённяшні юны чытач.

За шэсць гадоў існавання выдавецтва «Юнацтва» многае зроблена па павелічэнню выпуску дзіцячай літаратуры, але некаторыя пытанні застаюцца нявырашанымі і сёння.

Усё часцей на старонках перыядычнага друку з'яўляюцца артыкулы, дзе робяцца спробы — разабрацца ў нашай кнігавыдавецкай дзейнасці, падказаць, як удасканаліць яе. Нярэдка можна сустрэць публікацыі, дзе гаворка ідзе пра складанасць адносін паміж аўтарам і выдавецтвам. Некаторыя артыкулы вылучаюцца імкненнем даказаць, што аўтара «заціскаюць», «крыўдзяць», што ў задавальненні попыту насельніцтва на добрую кніжку ўсё ў рэшце рэшт залежыць выключна ад выдавецтва.

Нельга не пагадзіцца: здараюцца прыкрыя «накладкі» з боку рэдактараў і рэцэнзентаў пры рэдагаванні аўтарскіх рукапісаў. Але ж наўрад ці можна тлумачыць незадаволенасць чытача кніжнай прадукцыяй нейкімі пралікамі выдавецтва ў дачыненні да асобы аўтара. Несумненна, пытанне гэтае — і шырэйшае, і больш сур'ёзнае.

**Твар кожнага выдавецтва вызначаюць у першую чаргу яго аўтары. Гэта адносіцца і да выдавецтва «Юнацтва». Ці ж не таму кожнае выдавецтва шчыруе ў пошуках таго, самага патрэбнага аўтара, які дасць чытачам добрую кнігу, а выдавецтву—заслужаную славу? З гэтай мэтай робяцца розныя захады: аб'яўляюцца літаратурныя конкурсы—сёлета праводзяцца два такія конкурсы на лепшы літаратурны твор для дзяцей і юнацтва,—пішуцца аўтарам пісьмы-заклінанні, вядуцца ўгаворы на розных пісьменніцкіх сходах, робяцца «модныя» цяпер сацыяльныя заказы — калі ласка, напішыце для маленькіх такую і такую кнігу... Ды вось бяда, часцей за ўсё даводзіцца чуць у адказ адно: «Бярыце тое, што ёсць...» А гэта «што ёсць», як правіла, чарговае перавыданне або звычайная, радавая, зробленая не дзеля чытача, а хутчэй дзеля самога аўтара кніжка, у якую ён сабраў, што мог, у тым ліку і даволі слабыя ў мастацкіх адносінах рэчы. Дзе ўжо тут гаварыць пра нейкую надзённую тэму! Таму недасягальнай марай застаецца для выдавецтва атрымаць ад пісьменніка, напрыклад, твор пра маладога рабочага або навучэнца прафесійнага вучылішча. Як ні прыкра, але даводзіцца прызнаць, што пакуль мы не маем значных твораў, прысвечаных і сучаснай школе. Карацей кажучы, юны чытач з нецярпеннем чакае новых кніг ад аўтараў і выдавецтва. Чакае твораў *для сябе і пра сябе.* Цікавых, займальных, з прыгодамі і без прыгод, са станоўчым героем і проста героем—героем з жыцця...**

Каб неяк выйсці з незайздроснага становішча чалавека, які стукаецца ў дзверы і якому іх рэдка адчыняюць, каб задаволіць попыт на дзіцячую літаратуру, сугучную часу, даводзіцца «пазычаць» творы ў вядомых дзіцячых пісьменнікаў братніх рэспублік. І юныя чытачы, як сведчаць водгукі, удзячны выдавецтву за многія перавыдадзеныя на працягу апошніх гадоў кнігі — такія, як С. Міхалкова «Служу Савецкаму Саюзу», А. Ліханава «Мой генерал», В. Ліпатава «І гэта ўсё аб ім», В. Кісялёва «Дзяўчынка і птушкалёт», У. Нястайкі «Тарэадоры з Васюкоўкі», Л. Махмудава «Пагорак з цюльпанамі» і інш.

Ёсць, праўда, яшчэ адно выйсце ў выдавецтва: усё лепшае, што створана для дзяцей у рэспубліцы, яно збірае ў асобныя тэматычныя зборнікі. Так, кожны год перавыдаюцца творы са спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Маўра, Міхася Лынькова і іншых беларускіх пісьменнікаў. Але ж пагадзіцеся: аднымі перавыданнямі не вырашыць праблемы... А перавыданняў зашмат. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зазірнуць у анатаваныя планы выдавецтва «Юнацтва». Ёсць тут раздзел твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў. Логіка падказвае, што і творы тут павінны быць сучасныя, новыя. На справе ж — інакш. У асобныя гады перавыданні ў гэтым раздзеле займаюць амаль палову назваў. Куды ж ад іх дзенешся...

Не хочацца быць скептыкам, але сённяшні стан беларускай дзіцячай літаратуры не настройвае на аптымістычны лад. Пра гэта ішла гаворка і на пісьменніцкім з'ездзе. Цяжка прыгадаць яркі, запамінальны твор для дзяцей і падлеткаў, напісаны ў апошнія гады. А папярэднія гады? Яны, на жаль, таксама не пазначаны вялікім плёнам. Пісьменнікаў, якія парадавалі юнага чытача новымі арыгінальнымі кнігамі, можна пералічыць па пальцах. Патроху здаюцца пазіцыі, заваяваныя старэйшымі дзіцячымі пісьменнікамі. А сур'ёзнай зацікаўленай гаворкі аб праблемах далейшага развіцця дзіцячай літаратуры — не вядзецца... Зніжэнне ж цікавасці да пэўнай праблемы — не на карысць яе. Кароткія рэцэнзіі і водгукі, што час ад часу з'яўляюцца на старонках перыядычнага друку, не могуць задаволіць ні чытачоў, ні аўтараў кнігі. Яны носяць звычайна або кампліментарны, або «разносны» характар. Сур'ёзная ацэнка, аналіз твора падмяняюцца іншы раз пераказам зместу, пералікам станоўчых момантаў — і гэта цудоўна, і гэта няблага... Добра яшчэ, калі ўсё, што хваліцца, заслугоўвае пахвалы. Хай не прагучыць банальным папрокам у адрас крытыкі і той факт, што за апошнія гады не з'явілася ні аднаго саліднага агляднага артыкула, які б падсумаваў і здабыткі і недахопы сучаснай беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва. З пачуццём удзячнасці прыгадваю адну публікацыю ў «Літаратуры і мастацтве» на пачатку 80-х гадоў — шчыры, зычлівы і бескампрамісны артыкул Варлена Бечыка «Толькі без сю-сю...» Менавіта такіх артыкулаў, прасякнутых клопатам пра развіццё дзіцячай літаратуры, і не стае нам сёння. Праўда, той жа «ЛіМ» нядаўна зноў звярнуў увагу на нашу прадукцыю (нумар за 23.01.1987 г.). Выступілі маладыя крытыкі. Але артыкул А. Бадака здаўся мне павярхоўным, асабліва там, дзе ацэньваецца зборнік Міколы Янчанкі «Залаты вулей». Малады крытык не заўважыў разумнасці маральнага кодэкса прыроды, хараства душы вясковага хлопчыка — галоўнага героя кнігі.

Аднак вернемся да ўзаемаадносін аўтара і выдавецтва. Яны, як вядома, забяспечаны пэўнымі юрыдычнымі нормамі, адпаведнымі інструкцыямі. Хто ведае, можа, што і састарэла ў гэтых інструкцыях... І ўсё ж да выдаўцоў нярэдка прад'яўляюцца беспадстаўныя прэтэнзіі: рэдактар — прыдзірлівы, рэцэнзент — неаб'ектыўны, галоўная рэдакцыя — самаўпраўнічае, бо перанесла кнігу ў план выпуску на наступны год... А як жа на самай справе?

Вось зусім нядаўна рэдактар выдавецтва даў адмоўную ацэнку аднаму рукапісу. Зрабіў заўвагі і прапанаваў рукапіс дапрацаваць. Прапанова ў асноўным была слушная. Аднак аўтар не пагадзіўся. Ён матываваў сваю нязгоду даволі дзіўным аргументам: рэдактар — не член СП, хай прачытае рукапіс пісьменнік. Знайшлі такога рэцэнзента, які і пісьменнік, і вучоны. Ацэнка — зноў адмоўная. Што ж аўтар? Просіць яшчэ аднаго рэцэнзента...

Гэта добра, калі яшчэ просіць. Але часта ён, аўтар, бесцырымонна патрабуе, піша ў розныя інстанцыі і вяртаецца ў выдавецтва з адпаведнымі паперкамі — рэкамендацыямі, пасля якіх ужо рэдактару нічога не застаецца, як самому «даводзіць» рукапіс. Колькі марнага часу і энергіі ён траціць! А вынік адзін — зрабіць слабую кнігу вартай увагі чытача яму не ўдасца, і яна, гэтая кніга, папаўняе так званыя «астаткі» ў кнігарнях. І такіх выпадкаў, на жаль, не адзін і не два.

Што ж рабіць, як змагацца з шэрасцю, слабымі рукапісамі? Перш за ўсё — добрай дзіцячай кнігай, яна павінна ўладарыць у тэматычных планах, займаць як мага больш пазіцый, каб менш заставалася месца для твораў нізкай ідэйна - мастацкай вартасці. Праўду сказаў у нядаўнім артыкуле ў «Литературной газете» акадэмік Д. С. Ліхачоў: «Творам шэрым, прахадным, кан'юнктурным, якія прыніжаюць годнасць літаратуры, не вытрымаць духу саперніцтва з творамі высокай культуры, патрабавальнага маральна-этычнага зместу». І «Юнацтва» імкнецца наладзіць плённае супрацоўніцтва з вядомымі «дарослымі» пісьменнікамі, зацікавіць іх дзіцячай тэматыкай.

Чытаючы гэты артыкул, сёй-той з аўтараў можа і здзівіцца: як жа так — добрых кніжак у выдавецтва мала, а яно часам і гэтыя пераносіць з плана ў план? Хацелася б запыніцца на гэтым больш падрабязна, бо гэтае пытанне таксама праблемнае і трывожыць выдавецтва не менш, чым аўтараў.

Ніхто не стане аспрэчваць, што выдавецтва — творчая арганізацыя, у якой і накірунак працы адпаведны — ідэалагічны, і задача вядомая: забяспечыць выпуск літаратуры высокага ідэйна - мастацкага ўзроўню і ў першую чаргу — арыгінальных дзіцячых кніг беларускіх пісьменнікаў. Але ж, з другога боку, адносіны да выдавецтва гэткія ж, як і да прамысловага прадпрыемства. Перавага аддаецца не творчым, а вытворчым задачам. Асабліва ў крытычных сітуацыях, калі пад пагрозай выкананне плана. Ацэньваюць дзейнасць выдавецтва найперш па вартасных паказчыках, па тым самым прыбытку, лічба якога для нашага дзіцячага выдавецтва, як мне здаецца, магла б быць значна меншай. Як даць прыбытак каля двух мільёнаў рублёў штогод, калі намінал — кошт — дзіцячай кнігі пры істотным падаражанні з 1982 года паперы, кардону, пераплётных матэрыялаў і паліграфічных работ застаўся ранейшым? Выйсце адно: уключаць у выдавецкія планы (што і робіцца) хадавую прыбытковую літаратуру, г. зн. перавыдаваць творы рускай, савецкай, зарубежнай класікі.

**Не менш востра стаіць пытанне ўзаемаадносін выдавецтва з паліграфпрадпрыемствамі, якія забяспечваюць выпуск кніг «Юнацтва». Парушаючы рытмічнасць працы, паліграфісты звычайна прымяркоўваюць выпуск асноўнай колькасці выданняў на канец квартала. Гэта і стварае нервовую абстаноўку ў калектыве, бо пагроза зрыву плана кожны раз — самая рэальная. Паліграфпрадпрыемства можа закончыць *выкананне свайго плана* і ў апошні дзень месяца, выдавецтва ж не мае такой перавагі. Яму патрэбна і паспець вывезці кніжную прадукцыю на базы, і правесці своечасова афармленне адпаведных дакументаў, якія пацвярджаюць аперацыю. Спознішся—наракай на сябе...**

Здавалася б, праца ў новых умовах гаспадарання павінна істотна змяніць гэтую сітуацыю. На вялікі жаль, ніякіх змен тут не адбылося. У той час, як выдавецтва робіць значныя намаганні, каб забяспечыць своечасовую і якасную здачу рукапісу ў вытворчасць, ідзе насустрач паліграфістам у складаных сітуацыях, прадпрыемствы паліграфбазы працуюць па-старому. Тлумачаць сваю інертнасць недахопам магутнасцей, адсутнасцю патрэбных паліграфічных матэрыялаў і г. д. Карацей кажучы, у канцы года пераносіцца да 20 назваў кніг на наступны год. А пераносы і іншыя няўвязкі парушаюць усю сістэму планавання і выпуску дзіцячых кніг на наступныя гады. Пераносяцца звычайна тыя выданні, якія не даюць прыбытку, малатыражныя і малааб'ёмныя, афсетныя шматфарбныя работы, сярод якіх нямала арыгінальных беларускіх кніг. Безумоўна, яны выйдуць у наступным годзе, але ж давядзецца вызваляць для іх пазіцыі ў плане — зноў церпяць аўтары, церпіць выдавецтва. У рэшце рэшт выручаюць «Юнацтва» —што тычыцца эканамічных паказчыкаў — «макулатурныя» выданні: яны даюць і тыражы, і лісты-адбіткі, і, галоўнае, патрэбны прыбытак!

І ўсё ж... час патрабуе карэннай перабудовы кнігавыдавецкай справы, паляпшэння дзейнасці самага маладога ў рэспубліцы выдавецтва «Юнацтва». Бачацца і крокі ў гэтым кірунку — пашырэнне функцый рэдакцыйнага савета, абавязковае абмеркаванне тэматычных планаў і асобных рукапісаў у калектывах дзіцячых садоў, школ, прафесійна-тэхнічных вучылішч, тэхнікумаў. (Дарэчы, такія абмеркаванні ўжо з поспехам праводзяцца). Але галоўнае слова — за пісьменнікамі. Як слушна пісаў у адным са сваіх артыкулаў першы сакратар праўлення СП БССР Ніл Гілевіч: «...справа, відаць, не ў конкурсах і не ў іншых ініцыятывах. Справа ў саміх нас, творцах». Хочацца спадзявацца, што пісьменнікі падтрымаюць выдавецтва, і юныя чытачы будуць мець кнігі, сугучныя нашаму неспакойнаму, вірліваму часу.

**Яўген КАРШУКОЎ,**
**галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва».**

## ДУМКА ЧЫТАЧА

# АД ТЭОРЫІ ДА ПРАКТЫКІ

**Апошнім часам у «ЛіМе» друкуецца багата матэрыялаў, прысвечаных адной тэме — як наноў абудзіць цікавасць чытача да кнігі, у тым ліку да беларускай. Меркаванняў хапае, але ўрэшце ўсе сыходзяцца на адным: трэба зрабіць так, каб кніга была цікавай. Натуральна, не ідзе гаворка пра тое, што ўсе кнігі павінны пісацца як дэтэктывы альбо прыгодніцкія раманы. Зусім не. Проста кніга не павінна хлусіць. Праўда будзе цяжкай, балючай, будзе апякаць душы. А калі імкнуцца да простай канстатацыі фактаў, без душы, пачуццяў без асабістага стаўлення аўтара, нічога, акрамя нечытэльнай шэрасці, не атрымаецца. Так, маюцца на ўвазе шматлікія апавяданні, аповесці, раманы, зробленыя (іншае слова падабраць немагчыма) на прафесійным узроўні, без яскравых хібаў у сюжэце і стылі, якія яшчэ раз аўтарытэтна і пераканаўча сцвярджаюць — чорнае гэта чорнае, белае гэта белае. У выніку гэткай стараннай працы нараджаюцца творы-аднадзёнкі: напісалі, надрукавалі, забыліся.**

**А зараз уявім чытача, які пакуль выбірае, на якой мове чытаць. Трапіўся яму не лепшы нумар, напрыклад, «ЛіМа». Прачытае, адкладзе, задумаецца — а навошта я гэта чытаў? Сумна, нецікава — а ці не таму, што па-беларуску? Так нарадзіўся стэрэатып: беларускае — значыць другаснае. І гэты стэрэатып ніякімі лозунгамі, спасылкамі на выдатных класікаў, папярэднікаў пераадолець немагчыма. Не дасць вынікаў і знаёмства з горшымі рускамоўнымі ўзорамі літаратуры, таму што большасць — чытае па-руску, а большасць не можа памыляцца. Зараз усе згодны з тым, што любая прапаганда павінна грунтавацца толькі на нейкім рэальным падмурку. Адарванасць яе ад жыцця, канечне, дазваляе зрабіць заклікі больш гладкімі і прыгожымі, але адначасова яны пазбаўляюцца прывабнасці для тых, каму прызначаны. Тое ж і ў літаратуры. Крытыку шырокі чытач бадай *што не чытае, рэдактарскіх планаў* і ўзаемаадносін не ведае. Ён чытае тое, што даспадобы, не чытае тое, што не падабаецца. І калі тыя станоўчыя працэсы, што зараз адбываюцца ў літаратуры, застануцца толькі ў рэчышчы акадэмічнага абмеркавання літаратурнага героя альбо ў палымяных радках палемізуючых крытыкаў, прафесійна шэрыя кнігі і надалей будуць поўніць паліцы кнігарань. І літаратура памрэ, бо яна існуе толькі ў сваіх чытачах, якія ўжо даўно выраслі з узросту чытання ўсяго, што толькі друкуецца. Страта цікавасці да друкаванага слова, беларускага ў тым ліку, будзе доўжыцца, пакуль замест аб'ектыўнай ацэнкі мастацкіх вартасцей любога твора — і пачаткоўца, і сталага пісьменніка — на першы план будуць вылучацца далёкія ад літаратуры паняцці знакамітасці, вопыту, прабіўной здольнасці. Наспеў час, калі пісьменнік павінен ацэньвацца толькі *па таленце, а твор — па яго ідэйнамастацкай якасці!***

**І. МІКЛАШЭВІЧ,**
**інжынер.**

г. Мінск.

## КНІГАПІС




ГРОНКІ РАДАСЦІ. Творы пісьменнікаў Малдавіі і малдаўскага фальклору. Укладальнік Ф. Міронаў. Для малодшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1986.

**Чарговы том «Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР» адкрываецца словам народнага пісьменніка Беларусі В. Быкава пра братнюю Малдавію: «Малдавія — край высокаразвітай прамысловасці і інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі. Малдавія — край старажытнай культуры, чароўных песень, вясёлых людзей. У Малдавіі ёсць стэпы і высокія пагоркі, растуць лясы, і абмываюць гэтую зямлю дзве вялікія ракі Днестр і Прут. Але галоўнае багацце гэтага краю — урадлівая зямля, з пшаніцай, кукурузай, вінаграднікамі. У гады Вялікай Айчыннай вайны малдаване з усім савецкім народам актыўна змагаліся з фашысцкімі акупантамі на франтах і ў партызанскіх атрадах. І вось ужо болей за сорак гадоў малдаўскі народ паспяхова развівае сваю эканоміку, культуру і з надзеяй глядзіць у светлую будучыню».**

**Пра малдаўскую літаратуру для дзяцей расказвае ва ўступным артыкуле «Там, дзе спее вінаград» лаўрэат Дзяржаўнай прэміі МССР У. Бяшляге, які, у прыватнасці, зазначае: «Не здзіўляйцеся, што іх (пісьменнікаў) так многа ў нас: амаль кожны аўтар на пачатку свайго творчага шляху піша для дзяцей і пра дзяцінства. А як жа інакш? Дзеці ж — самы цікаўны, самы шматлікі чытач».**

**Кола аўтараў сапраўды прадстаўнічае — больш як 70 пісьменнікаў. Акрамя таго, беларускія дзеці маюць магчымасць на сваёй роднай мове пазнаёміцца з лепшымі ўзорамі малдаўскага фальклору — змешчаны легенды, казкі і баечкі, народныя песенькі. Па-беларуску загучалі паасобныя творы класікаў малдаўскай літаратуры — В. Аляксандры, М. Эмінеску, І. Крангэ і іншых, сучасных пісьменнікаў Э. Букава, І. Друцэ, Г. Віеру, П. Боцу і многіх іншых.**

**Кніга праілюстравана работамі малдаўскіх мастакоў. Творы на беларускую мову пераклалі В. Рабкевіч, У. Казбярук, Р. Барадулін, К. Камейша, У. Мазго, У. Паўлаў, В. Зуёнак, В. Коўтун, Г. Шупенька, А. Клышка, К. Цвірка, А. Жук і іншыя.**

## КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ

# УСЛЕД ЗА ХВАЛЯЙ ЦІ НАСУСТРАЧ ЁЙ?

Ёсць людзі, якія лічаць, быццам крытык, аналізуючы раман, верш, п'есу, паведамляе аўтару, як бы напісаў ён іх сам, каб мог. Вядома, гэта жарт. Як раманісту неабавязкова ведаць, скажам, медыцыну, нават у тым выпадку, калі яго героі—выдатныя ўрачы, так і крытыку, які піша пра раман, неабавязкова ўмець пісаць раманы. Аднак тое, што крытык павінен быць калі не разумней, то, прынамсі, на адным разумовым узроўні з пісьменнікам, несумненна. Калі пісьменнік не ўздымаецца над рэаліямі жыцця, то ён — рамеснік, але рамеснік і крытык, які не ўздымаецца над рэаліямі літаратуры.

Апошні час мы шмат гаворым пра неабходнасць змен у нашым жыцці. Аднак, як ні дзіўна, наша крытыка не спяшае змяняцца і ўсё нечага чакае. Даводзілася бачыць у Кактэбелі (тут знаходзіцца Дом творчасці Літфонду), як многія нашы пісьменнікі, не будучы вялікімі плыўцамі, цярпліва чакаюць высокую хвалю, якая ідзе ад парахода, што прайшоў міма, і смела кідаюцца наперад. Але не насустрач хвалі, а ўслед за ёю. Менавіта гэта ўспамінаеш, калі чытаеш крытычныя артыкулы, апублікаваныя ў апошні час. Наперад, расправіўшы плечы! Наперад, але не ў авангардзе...

У літаратуры, як і на моры, нашы крытыкі баяцца глыбіні. Творы разглядаюцца толькі ў адносінах да сучаснай літаратуры. У лепшым выпадку яны параўноўваюцца з дасягненнямі мінулага. Схема прыкладна наступная: у адносінах да сучаснай—гэта цудоўна, а ў адносінах да дня ўчарашняга—слаба.

Справа тут, мусіць, у тым, што кожнае літаратурнае пакаленне мае патрэбу ў сваім крытыку, які не толькі зразумее яго пошукі новага, але і падтрымае. Таму апекаваць у нас трэба не толькі пачынаючых паэтаў і празаікаў, але і крытыкаў. Тое, што новае заўсёды прабівае сабе дарогу з цяжкасцю, вядома ўсім. Аднак нашы вядомыя крытыкі, магчыма, з пахвальнага жадання быць аб'ектыўнымі, адмаўляюць тое, што заўтра назавуць новым метадам. Часта гэта робіцца з самымі добразычлівымі намерамі. Вось прыклад.

У «Маладосці» апублікаваны артыкул А. Клышкі «Горкі твой хлеб, гісторыя», у якім аналізуецца зборнік вершаў А. Мінкіна «Сурма». Сказана шмат добрых слоў у адрас маладога паэта. Аднак прыгледзімся ўважлівей, за што хваліць крытык паэта. Ды за тое, што вершы А. Мінкіна пераклікаюцца з цыклам «У зачараваным царстве» М. Багдановіча.

Што дае маладому паэту зварот да вядомых—Дамавік, Вадзянік—і невядомых—Белабог — вобразаў? Звяртаючыся да мінулага, паэт імкнецца выявіць перш за ўсё праблемы сучаснасці на грунце ўжо набытага вопыту. Аднак вельмі цяжка пры гэтым не пайсці па торнай дарозе. «Ісці за кімсьці, значыць, ісці ззаду яго. Сапраўдная традыцыя з'яўляецца кірункам. І кепска, калі яна робіцца бітым гасцінцам для перайmальнасці», — пісаў А. Клышка дваццаць гадоў таму назад у кнізе артыкулаў «Права на верш».

Творчая арыентацыя на такога майстра, як М. Багдановіч, сама па сабе нядрэнная. Але *ісці да творчай самастойнасці трэба, узяўшы за ўзор дух, а не форму.* Атрымліваецца ж так, што А. Клышка хваліць вершы, дзе даніна павагі паэту перарастае ў стылявыя, вобразныя імітацыі «пад Багдановіча». Замест таго, каб песцерагчы паэта, які мае свой голас, крытык стараецца штучна далучыць яго да паэтаў зусім іншай школы.

У сваім артыкуле крытык заклікае паэта, каб той жыў клопатам пра гістарычную спадчыну народа. Так, я таксама, як і А. Клышка, «супраць няпамяці, раўнадушнасці да гісторыі, супраць самаахвотных манкуртаў». Аднак жа сумняваюся ў тым, што можна ўвайсці ў гісторыю, абапіраючыся толькі на вопыт іншых паэтаў, няхай сабе і вялікіх. Нельга стаць вялікім, *не будучы наватарам у мастацтве.*

Прыйсці да новага немагчыма без вялікай падрыхтоўчай працы. Колькі патрэбна для гэтага спроб і горкага вопыту? Адсюль і так званыя студыйныя вершы. Не заўсёды яны бываюць удалымі. Аднак адмаўляць іх толькі за тое, што яны выходзяць за межы нашых уяўленняў аб паэзіі, не варта. У. Калеснік у прадмове да кнігі У. Жылкі «Пожні» піша: «Смела можна сказаць, што тое, што было калісьці заганай, сёння стала прызнаным дасягненнем, бо культура сучаснай паэзіі, а адпаведна чытачоў, настолькі вырасла, што апошнія ахвотна шукаюць інтэлектуальнай і вобразнай ускладнёнасці, смакуюць духоўнасць». І таму цяжка зразумець іронію А. Клышкі ў дачыненні да такіх вершаў А. Мінкіна, як «Жарынкі», «Вяртанне», «Абуджэнне»: «Не ведаю, што гэта—верш ці проза, але, бачачы незапоўненыя да краю радкі, мяркую, што, паводле аўтара, гэта верш, таму цытую з захаваннем «аўтарскага падзелу на радкі». Магчыма, гэта не іронія, а наіўнасць. Можа, ніколі не сустракаў А. Клышка вершаў, падобных на тыя, што ўвайшлі ў кніжку «Сурма»?

Ды не, сустракаў! Яшчэ ў *1978 годзе ў «ЛіМе» была яго* рэцэнзія «Сцежкі залом і звіх», дзе ён аналізаваў паэму А. Разанава «У поцемках, з ліхтаром», а ў 1983 годзе ў тым жа штотыднёвіку ў артыкуле «Зноў пра крытэрыі і ацэнку», напісаным у адказ на крытыку У. Калесніка, А. Клышка вызначае творчасць А. Разанава як «некрытычнае засваенне мадэрнісцкага вопыту». Тады крытык пісаў, што няма нічога прасцей, чым пісаць такія вершы: «У Разанава выразна выяўляецца наўмысны іх асацыяцыйны ход: найбольш часты прыём нанізвання радкоў—слоўнае супрацьстаўленне. Гэта вельмі лёгка рабіць». Прайшло ўжо восем гадоў, а крытык па-ранейшаму радуецца *гэтай магчымасці лёгка пісаць* вершы, толькі ўжо ў артыкуле пра А. Мінкіна:

«Вось «Жарынкі»:
**агонь палаючы**
**і светач**
**і злачынства.**

Але так праз супрацьстаўленне можна нанізваць бясконца (балазе, і знакаў прыпынку не трэба расстаўляць!). Пакажам гэта праз парадзіраванне:
**вяроўка вяжучы**
**і сувязь**
**і пятля.**
Або: **яда глынаючы**
**здароўе**
**і атрута.**
Ці
**верш вымаўлены**
**і мастацтва**
**і лухта».**

Вам смешна? Не! Бо з першага погляду відно: гэта пародыі толькі на форму верша.

Вось тут і пачынаецца барацьба А. Клышкі супраць А. Клышкі. Як не ўспомніць сапраўды цудоўныя словы з яго ўжо названай кніжкі «Права на верш»: «Нам і сёння падчас даводзіцца слухаць, нібыта сапраўднае наватарства ідзе толькі праз змест. Як бы ніколі не бывае і другога, калі наватарства формы прыводзіла да новага зместу. Бо і форма актыўная. Не толькі яе «выбіраюць», але і яна «шукае», ідзе сама насустрач жыццёваму матэрыялу. Беззмястоўнай формы не бывае. Тая ці іншая форма—гэта ўжо тая ці іншая пэўнасць і зместу».

Такое, калі крытык з гадамі крута змяняе сваю пазіцыю, здаралася. Што ж, бывае! Але паспрабуйце растлумачыць, чаму малады крытык Тамара Чабан абрынула свой гнеў на такіх жа маладых крытыкаў, як і сама? Тут ужо не скажаш: «Узрост».

Артыкул Т. Чабан «Каб слова стала справай» задуманы як размова аб праблемах сучаснай крытыкі, але размова чамусьці звялася да абмеркавання С. Дубаўца, С. Кавалёва, А. Бяляцкага. Праўда, імя апошняга ўспамінаецца толькі ў пераліку. Што ж, аўтару лепш відаць, каму аддаць больш увагі, а каму менш. Але гэта справядліва, на маю думку, толькі тады, калі хваляць. А калі «б'юць спіскам»? Прынамсі, у чым канкрэтная віна А. Бяляцкага, незразумела.

Чытачу ў многіх выпадках даводзіцца верыць Т. Чабан на слова: ніводнай цытаты, дзякуючы якой можна было б пераканацца ў праваце аўтара, у артыкуле няма. А абвінавачванні *сур'ёзныя:* «Справа не толькі і не столькі ў залішняй гарачлівасці, зухаватасці, падчас суб'ектыўнасці і літаратуразнаўчай недасведчанасці публікацый здольных маладых крытыкаў С. Дубаўца, С. Кавалёва, А. Бяляцкага і інш. Насцярожвае самаўпэўненасць тону, адсутнасць сумненняў, асабістай віны». Думаю, што ў тых, хто чытаў названых аўтараў, словы гэтыя выклікаюць па меншай меры непаразуменне. *Тым больш, што ў канцы* артыкула знаходзім словы: «Народная мудрасць гаворыць: калі хочаш пераўтварыць свет, пачні з сябе».

Як і аўтар артыкула «Каб слова стала справай», я таксама супраць панавання ў літаратуразнаўстве метадаў структуралізму і голых матэматычных падлікаў частаты ўжывання слоў. І ўсё ж цікава было б падлічыць, колькі разоў у артыкуле Т. Чабан сустракаецца словазлучэнне «асабістая віна»? Не адзін і не два разы. Незразумела толькі, перад кім трэба вінавaціцца.

Тут хочацца прывесці словы празаіка У. Арлова з яго дыялога з крытыкам Т. Грамадчанка «Пад ветразем надзеі», апублікаваным у «Маладосці»: «Граматнасць», веданне законаў жанру і ўсё астатняе ніколі не былі гарантыяй ад шэрасці і другаснасці. Адзін рады чытач, загарнуўшы кнігу, сказаў: «Прыгожа напісана, але дзе талент?» Сказана гэта было ў размове пра маладую прозу, але думка правільная і ў адносінах да ўсёй літаратуры. Не так далёка той час, калі «залішняя гарачлівасць, зухаватасць, падчас суб'ектыўнасць», супраць якіх паўстае цяпер Т. Чабан, заменяцца «вывeранасцю ацэнак і меркаванняў, аб'ектыўнасцю і тактоўнасцю». Аднак ці не ператворыцца гэтая «вывeранасць» і «тактоўнасць» у маладых крытыкаў, якія горача ўзяліся за сваю справу, у літаратурнае лавіраванне, у такую сумна вядомую гульню, дзе ўздаецца «і вашым, і нашым» і няма пераможцы?

Ці не стануць вынесеныя ў пачатак артыкула крытычныя закіды толькі сродкам, каб прыцягнуць увагу чытача: маўляў, і мы смелыя! Пабіваем! Напрыклад, так: «Пачну з выдаткаў»,—піша М. Гайцюкевіч у апублікаванай у «Маладосці» рэцэнзіі «Дрэва радаслоўнае не звяне» на першую кніжку А. Жыгунова. Гэта асабістая справа аўтара, куды—у пачатак артыкула або ў канец — вынесці свае заўвагі. Але боязь крытыка, што, «калі закончыць заўвагамі, то гэта будзе падобна на «лыжку дзёгцю», дарэмная, калі пішаш пра тое, што цябе сапраўды хвалюе.

Згадваецца і рэцэнзія Ю. Свіркі на кнігу С. Басуматравай *«Кветкі палявыя»,* апублікаваная летась у «Літаратуры і мастацтве». Напісана яна вопытнаю рукою. «Далучанасць да подзвігу народа,—піша аўтар рэцэнзіі,—знітаванасць маладога пакалення з гераічным мінулым і сучаснасцю, можа, як ніхто з яе аднагодкаў, пераканаўча выказвае ў сваіх грамадзянскіх вершах С. Басуматрава». Як бачым, Ю. Свір-

# Часопісы ў сакавіку

## «ПОЛЫМЯ»

**З вершамі выступаюць А. Вялюгін, С. Грахоўскі, А. Мікалайчанка, Т. Мельчанка, С. Каробкіна, Л. Філімонава, З. Мінчанка. Паэзія прадстаўлена таксама паэмай-калыханкай Н. Мацяш «Пространь кахання».**

**Змешчаны працяг рамана І. Шамякіна «Зеніт», драма Г. Каржанеўскай «Мора, аддай пярсцёнак», раздзелы з кнігі «З аповесці вайны» К. Кірэенкі.**

**«Духоўны скарб сям'і» — публіцыстычныя нататкі А. Сілянкова. Прапануецца пачатак нарыса В. Якавенкі «Апошняя квадра».**

**Новыя факты пра А. Багдановіча-фалькларыста паведамляе І. Цішчанка — «З глыбінь народных».**

**М. Тычына разважае над набыткамі літаратуры апошніх гадоў — «Пад знакам абнаўлення».**

**У раздзеле «Культура мовы» выступае В. Вітка — «Слова — не верабей!»**

**Новыя кнігі рэцэнзуюць Я. Усікаў, М. Барсток, В. Гігевіч.**

**Завяршае нумар «Наш каляндар».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**Чытач пазнаёміцца з вершамі Л. Баршчэўскага, С. Сакалова, Л. Бурдыка, В. Шлыкава, Л. Тарасюк, В. Гурскай, Н. Марціновіч, Г. Дубянецкай, Н. Шкляравай.**

**Проза прадстаўлена апавяданнямі В. Мудрова і заканчэннем рамана А. Асіпенкі «Святыя грэшнікі».**

**«Заданне на паслязаўтра» — нарыс В. Кубені.**

**Пра ідэалагічную кантрабанду разважае У. Хачырашвілі — «Яд Аспіда».**

**Г. Тычко аглядае маладую прозу 1986 года, К. Шэрман дзеліцца ўражаннямі ад наведвання Кубы — «Востраў памяці», А. Лысенка рэцэнзуе кнігу С. Алексіевіч «Апошнія сведкі» — «Суд жыцця».**

## «БЕЛАРУСЬ»

**Публікуюцца матэрыялы, якія расказваюць аб працоўным гераізме трэцяй пяцігодкі.**

ка не скупіцца на высокія ацэнкі.

Але каго здольны ўсхваляваць верш, дзе няма ніводнага жывога слова? Як гэты, напрыклад:

**Плыў гаркаваты пах травы**
**Па-над магіламі герояў.**
**Зямлёй накрытыя сырою**
**Спяць генерал і радавы.**

**А нолькі дужых, маладых**
**Скасіў тут ашалелы вораг.**
**Героі неслі мір у горад,**
**І горад не забудзе іх.**

**У думках я каторы раз**
**Іх спіс гартаю паімённы.**
**Яны б цяпер жылі між нас.**
**Навекі праклінаю войны.**

Цяжка ўявіць чалавека, які здольны паверыць у тое, што можна «ў думках... каторы раз» гартаць пайменны спіс абаронцаў Бабруйска.

Часам ствараецца ўражанне, што крытык, узяўшыся за пяро, адбывае нейкі прымус. Вось, напрыклад, рэцэнзія В. Гігевіча «Спасціжэнне прыгажосці» на кніжку У. Ягоўдзіка «Стронга». У цэлым даецца правільная ацэнка творчасці маладога празаіка. Няма ні лішняга крытыканства, ні абрыдлай кампліментарнасці. Тым не менш нудой і сумам цягне ад рэцэнзіі. Як па ўзгорыстай мясцовасці—уверх-уніз, уверх-уніз — брыдзе чытач ад слоў ацэнкі В. Гігевіча да цытат з твораў У. Ягоўдзіка. І зусім ужо бярэ туга, калі крытык пачынае разважаць пра форму аповесці «І паклікала я...». Вельмі знаёмыя ўжо гэтыя радкі пра «манернічанне пад не лепшыя ўзоры заходняй літаратуры, якое нашаму характару ніколі не было ўласціва».

Мне відавочна не стае вопыту ў змаганні з літаратурным рэтраградствам, і я хачу ўзяць сабе ў саюзнікі крытыка М. Эпштэйна, які ў артыкуле «Пакаленне, якое знайшло сябе», апублікаваным у «Вопросах литературы», піша: «Распаўсюджанае сцвярджэнне: «Гэта дрэнна, бо незразумела», — наўрад ці мае які-небудзь сэнс: ацэнка можа выцякаць з разумення, але ніяк не папярэднічаць яму».

Няхай не крыўдуюць аматары беларускай літаратуры, што цытую не беларускага аўтара. На вялікі жаль, наша крытыка неяк непрыкметна стала пераходзіць ад размовы аб праблемах, тэндэнцыях да напісання партрэтаў тых, хто набліжаецца да юбілею. У «Маладосці» існуе ўжо спецыяльная рубрыка «Віншуем з юбілеем». Калі ў тых жа «Вопросах литературы» адразу тры аўтары (М. Эпштэйн, І. Шайтанаў, М. Ільніцкі) у адным нумары расказваюць пра шляхі і цяжкасці маладой паэзіі, то тая ж «Маладосць» за ўвесь 1985 год апублікавала тры невялікія рэцэнзіі на кнігі маладых аўтараў. Былі дзве спробы зрабіць агляд маладой прозы (Л. Савік) і паэзіі (Я. Гарадніцкі), аднак узровень іх даволі нізкі.

Хачу напомніць словы У. І. Леніна, сказаныя ў размове з А. М. Горкім: «Пісьменнік павінен быць *трохі наперадзе* чытача». Працягваючы гэту думку, можна сказаць, што і крытык, у сваю чаргу, павінен быць трохі наперадзе пісьменніка. Інакш хто будзе паказваць літаратурную перспектыву наперад, да эстэтычнага ідэалу?

**Ганна КІСЛІЦЫНА,**
**студэнтка БДУ імя У. І. Леніна.**

# НЕ ПРЭСТЫЖНЫ ЖАНР?..

У КАНЦЫ мінулага года давялося мне прымаць *удзел у рабоце семінара* маладых публіцыстаў, які быў арганізаваны на базе часопіса «Аўрора». Гаворка, якая была распачата ў рэдакцыі, знайшла свой цікавы працяг на Іжорскім заводзе; былі незабыўныя сустрэчы з ленінградцамі. Але што мне падалося дзіўным: публіцыстаў з Беларусі на гэтым семінары было намнога меней, чым, напрыклад, з Прыбалтыйскіх рэспублік. Чаму ж так атрымалася? Няўжо не было каго накіраваць на гэты прадстаўнічы і, я б адзначыў, карысны семінар? Ды не, «пракол» з ленінградскім семінарам — яшчэ адно красамоўнае сведчанне таго, як мы ставімся да выхавання творчай моладзі, у дадзеным выпадку — публіцыстаў і нарысістаў. А пасля пацiскаем плячыма: нашы маладыя, маўляў, цураюцца баявога жанру!..

Ды цураюцца таму, што ўжо на самым пачатку творчага шляху ў многіх з сённяшніх так званых маладых метадычна адбівалі ахвоту да «непрэстыжнага» жанру. Вось як гучыць засцярога з вуснаў некаторых старэйшых таварышаў: не для таго табе, маўляў, дараваны талент, каб ты распыляў яго на дробязі, займаўся падзёншчынай... Трэба пісаць для вечнасці, для нашчадкаў. А нарыс ты заўсёды накрэмзаеш...

Вось і крэмзаем памалу... Калі ў нас так званы творчы застой, калі трэба палепшыць матэрыяльнае становішча, каб потым, забяспечыўшы тылы, спакойна засесці за аповесць ці раман. Для нашчадкаў.

Такая думка ўсталявалася даўно і не выпадкова. У гэтай сувязі мне хочацца нагадаць выпадак дзесяцігадовай даўнасці. У 1975 годзе мне пашчасціла прымаць удзел у нарадзе маладых пісьменнікаў у Маскве. Разам са мной ехалі ў Маскву В. Казько, А. Жук, Г. Далідовіч, А. Папова, Г. Пашкоў і іншыя, ва ўсіх было ўжо па некалькі кніжак. Выявілася ў апошні момант, што для поўнага «камплекту» дэлегацыі не хапала маладога нарысіста! А тут — рабочы хлопец, слесар-зборшчык трактарнага завода... Тое, што трэба! Адразу прызнаюся: *не вельмі ўтульна адчуваў я сябе ў кампаніі паэтаў,* празаікаў і драматургаў, але асабліва няёмка рабілася, калі хто-небудзь з іх, на правах літаратурных паўпрэдаў рэспублікі, цікава і разнастайна прадставіўшы сваіх калег — паэтаў *і празаікаў, — раптам спахопліваўся:* «А гэта наш нарысіст»... Выпадак даўні і прыватны, і, мабыць, не варта было б яго ўспамінаць, калі б ён у нейкай ступені не сведчыў пра адносіны большасці нашых пісьменнікаў да нарысістыкі. Сапраўды, становішча ў нашым «гарачым цэху», калі зазірнуць у рэспубліканскія газеты і часопісы, вельмі трывожнае. А, можа, у нас ніколі і не было нарысістаў? Ды не! Я пагартаў даўнія падшыўкі часопісаў «Беларусь», «Полымя», «Маладосць» і ўпэўніўся ў тым, што ўсе нашы цяпер вядомыя пісьменнікі пачыналі з нарыса, працягваюць і цяпер працаваць у гэтым жанры. Варта было б прыгадаць імёны У. Караткевіча, І. Шамякіна, В. Карамазава...

Згадваецца артыкул Ігната Дуброўскага «Час нарысістаў, або Сем прычын, якія замінаюць баявому жанру». Першае, пра што падумалася тады: чаму толькі сем? Чаму не восем? Не дзесяць? Сапраўды, пры жаданні можна было б «адкрыць» яшчэ некалькі прычын ці перашкод на шляху нарыса. Але дзякуй І. Дуброўскаму ўжо за тое, што ён першы з нашых нарысістаў, старэйшых і маладых, азваўся на важкія змены, якія адбываюцца ў нашым жыцці, распачаў вельмі наспелую і злабадзённую гаворку пра стан сучаснага нарыса. А тое, што прычыны гэтыя агульнавядомыя і застарэлыя, што па-ранейшаму «нарыс — жанр не прэстыжны»,— гэта ўжо наш агульны клопат. І віна кожнага з нас, хто працуе ў літаратуры.

Цікава працуюць сёння «на *сваіх напрамках*» нашы нарысісты І. Дуброўскі, В. Праскураў, В. Якавенка, а таксама С. Алексіевіч, А. Казловіч, Я. Будзінас... На жаль, ёсць нямала такіх, якія цікава заявілі аб сабе гадоў пяць-дзесяць назад, але з таго часу ці маўчаць, ці зрэдку даюць аб сабе знаць *слабым апавяданнем* альбо аповесцю. Нарыс, публіцыстычны артыкул яны лічаць за нізкі «штыль» і не жадаюць разменьвацца на дробязі. Добрыя журналісты і публіцысты становяцца благімі пісьменнікамі. Хто, спытаеце, у гэтым вінаваты? Ды перш за ўсё тыя, хто некалі прывучыў іх грэбаваць «чорнай» работай, адвучыў працаваць у літаратуры, прывіў непрыязнасць да «другасортнага» жанру — нарысістыкі.

Успамінаецца вядомае пісьмо Ф. Абрамава да сваіх землякоў «Чым жывём-кормімся». Сапраўды, а ці не дужа запанелі вы, таварышы «чыстыя» паэты і празаікі? Матэрыяльна забяспечаны няблага, выдавецтвы не толькі выдаюць вас, але і перавыдаюць, кватэры, пасады — калі ласка... Толькі працуй! Сёй-той нават скардзіцца пры выпадку: «Заядае рэдакцыйная работа! Зайздрошчу таму, хто мае вольны час, каб пісаць сваё». А «сваё» — гэта абавязкова раман ці, у горшым выпадку, аповесць. Ніжэй не бяром. А ў тым рамане або аповесці не тое што няма адкрыцця — не сустрэнеш нават жывінкі. Няўжо не пераконваюць урокі Ф. Абрамава, які паспеў так шмат зрабіць у літаратуры толькі таму, што назіраў за імклівай плынню жыцця не з акна свае камфартабельнае кватэры ў Ленінградзе, а, пабудаваўшы сваімі рукамі сялянскі дом у роднай Верколе, жыў там (зноў жа — не назіральнікам!) па паўгода, а то і болей!.. Не, я не заклікаю сваіх маладых калег кідаць утульныя кватэры ў сталіцы і ехаць у вёску. На такі крок здольны нямногія, і калі хто-небудзь з нас зробіць яго, дык абыдзецца без заклікаў. Я хачу скіраваць увагу тых, хто цураецца нарыса, на іншае: грамадзянскае сумленне не дазваляла Ф. Абрамаву праз пальцы глядзець на абыякавыя адносіны да зямлі, да сваёй справы, што захліснулі шмат якіх гаспадарнікаў. І ён змагаўся, змагаўся і мастацкім, і публіцыстычным словам. Яшчэ пятнаццаць год назад ён засцерагаў, што ўсё ў выніку будзе залежаць ад таго, які чалавек будзе жыць і працаваць на зямлі. Не, не перакаці-полю, што вандруе па найбольш заможных гаспадарках, і не бюракрату-чыноўніку, які слепа выконвае загады і дырэктывы, ажыццяўляць справу перабудовы. Час уладарна патрабуе чалавека-гаспадара, і гэта добра, што мы нарэшце дачакаліся яго Вялікасці Часу Гаспадароў, за якім не задоўжыўся і Час Нарысістаў (маю на ўвазе артыкул І. Дуброўскага). Што датычыць Часу — то так, ён прыйшоў, а вось як наконт Гаспадароў? Давайце ўспомнім: *яшчэ толькі* ўчора мы білі трывогу, што адвучылі селяніна ад зямлі, адбілі ў яго ахвоту гаспадарыць і, натуральна, адсюль усе нашы беды і праблемы. Я не буду іх зараз пералічваць, бо іх вельмі шмат і мы ўсе іх ведаем. У творчасці нашых пісьменнікаў, ды і не толькі нашых, паняцце «зямля» набыло форму нейкага былінна-баладна-песеннага стэрэатыпу. Не, ад услаўлення роднай зямлі, ад таго ж жаўрука над вясенім полем ніхто не адмаўляецца, але паслухайце, што пісаў некалі В. Авечкін яшчэ нікому невядомаму тады Ю. Чарнічэнку: «Даўно пара літаратарам узяцца за эканамічныя пытанні так, як вы за іх бярэцеся,— паколькі самі эканамісты ні халеры ў гэтай галіне не робяць. За што ні вазьміся — усё трэба нашаму брату пачынаць! Ну што ж, такая ўжо наша доля— лезці паперадзе бацькі ў пекла!»

Заўважу, вельмі злабадзённы заклік і на сённяшні дзень. Давайце ж сябраваць з эканомікай. Давайце будзем сапраўд*нымі гаспадарамі на зямлі, бо* яна, зямля, перафразіраваўшы вядомыя словы, «любіць рахунак». А лічбы, якія прыводзіць А. Івашчанка ў нарысе «Зямля» («Новый мир», № 6, 1986 г.), наводзяць на сумны роздум... Вось толькі адна: па звестках УНДІ аховы глебы ад эрозіі ў вельмі небяспечным стане ў нас знаходзіцца 120 мільёнаў гектараў ворыва — 53 працэнты. Штогод зносіцца 1,5 мільярда тон глебы, — што раўнацэнна 180 мільёнам тон зерня. Толькі ўдумайцеся ў гэтыя лічбы! Нам трэба вучыцца лічыць, трэба біць у званы, інакш заўтра будзе позна.

Перабудова поўным ходам ідзе па краіне. Думаецца, нам трэба хутчэй перабудоўвацца ў рэдакцыйным і выдавецкім цэхах, бо нарыс у выдавецкіх планах знаходзіцца на галодным пайку. Калі я нядаўна прапанаваў нашаму галоўнаму выдавецтву кніжку нарысаў, адзін вопытны і шаноўны рэдактар астудзіў мой публіцыстычны запал такімі словамі: «Слухай, стары, па-першае, на публіцыстыцы ты нічога не заробіш. Па-другое, чарга... Людзі не могуць спіхнуць з рук сваю публіцыстыку па тры-чатыры гады. Пішы лепш для вечнасці. Глядзіш, калі-небудзь, пад круглы юбілей, і перавыдадзім...»

Пасля такой шчырай парады сумна мне зрабілася. Да круглага юбілею далёка, і потым, як жа гэта стасуецца: «публіцыстыка», якую трэба «спіхваць з рук»?

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ.**

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

## З КАГОРТЫ НЕПАКОРАНЫХ

**Дакументальная аповесць Уладзіміра Дамашэвіча і Уладзіміра Сазановіча «Першым заўсёды цяжка» выпушчана выдавецтвам «Юнацтва» ў серыі «З арлінага племені». Да зместу твора добра стасуюцца радкі народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, вынесеныя на вокладку: «У смяротныя бітвы вадзіла заўжды нас не толькі нянавісць, вадзіла любоў да Радзімы, да працы, да нашых сяброў». Аўтары расказваюць пра камсамольцаў-падпольшчыкаў, якія ў гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічалі на тэрыторыі Клецкага раёна.**

**Толькі некалькі месяцаў працягвалася дзейнасць падпольшчыкаў, якія неўзабаве мужна загінулі. Аднак тое, што паспелі зрабіць яны, мела асабліва важнае значэнне, бо барацьба з акупантамі вялася на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, дзе насельніцтву, якое менш чым два гады жыло пры Савецкай уладзе, цяжка было з'арыентавацца ў падзеях. Дзейнасць Сяргея Таўкача і яго таварышаў стала штуршком і для тых, хто яшчэ сумняваўся, як жыць далей.**

**У аўтараў было небагата фактаў аб жыцці герояў, тым *не менш ім удалося стварыць* праўдзівыя вобразы тых, хто, кажучы словамі М. Маёрава, «ушел не долюбив, не докурив последней папиросы». У кнізе змешчаны здымкі некаторых з іх — на жаль, не ўсе фота захаваліся.**

**А. КУНЦЭВІЧ.**

## ШУКАЮЧЫ СВАЕ ТЭМЫ

**Альбом-нарыс «Абрам Кроль», выпушчаны выдавецтвам «Беларусь», — слова пра жыццёвы і творчы шлях аднаго са старэйшых беларускіх мастакоў. Расказваючы пра А. Кроля, мастацтвазнавец Алег Сурскі звяртае ўвагу на розныя бакі яго творчай дзейнасці, якая пачалася яшчэ ў 1932 годзе.**

**Аднак не ў графіцы і не ў афарміцельскай рабоце знайшоў А. Кроль сваё сапраўднае прызванне, хоць экспазіцыя Беларускага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, над афармленнем якой ён працаваў, і вызначаецца змястоўнасцю, эмацыянальнай насычанасцю. Галоўныя яго набыткі ў галіне жывапісу. Адзначаючы гэта, аўтар паказвае, як плён*на асвойвае А. Кроль* гісторыка-рэвалюцыйную тэму, аб чым, у прыватнасці, сведчаць такія яго работы, як «Нараджэнне рэспублікі», «Свярдлоў з камісарамі першага беларускага ўрада», «Браняпоезд Гралыгіна», «На вобыск», «Песня курлоўскага расстрэлу».**

**Акрамя рэпрадукцый гэтых твораў, змешчаны таксама шматлікія пейзажы, што сведчаць аб набытках А. Кроля і ў гэтай галіне жывапісу.**

**В. ЗУШЧЫК.**

**Артыкул Г. Марчука «Непарушная сувязь» змешчаны пад рубрыкай «Актуальны погляд».**

**У нумары — апавяданне М. Капыловіча «Сустрэча на шляху», вершы С. Басуматравай, Н. Загорскай, Т. Пяркоўскай, А. Елісеенка, Г. Івановай, І. Навуменка, С. Беставай, Р. Аўчыннікавай, нататкі М. Жыгоцкага «І чуцен голас быў паэта» аб знаходжанні Якуба Коласа ва Узбекістане, старонкі дзённіка В. Віткі «Азбука душы», рэцэнзія А. Лозкі на хрэстаматыю «Беларускі фальклор», працяг дакументальнай аповесці Ю. Іванова і І. Майданава «Аперацыя «Крот», артыкул П. Якубовіча «Давайце паважаць балельшчыка».**

**«Бар'ер, або Сумная гісторыя пра тое, як вынаходца Анатоль Юніцкі ў космас «лятаў» — праблемны нарыс В. Жука.**

**«Пра іх складаюць песні» — В. Дубінка расказвае пра жыццё падшэфнага калгаса імя Жалезняковіча Навагрудскага раёна.**

**Л. Званарова напісала штрыхі да творчага партрэта В. Іпатавай — «Жыццё вымяраюць ідэалам...»**

**«Покліч часу» — першы артыкул А. Яскевіча, у якім аналізуецца сучасны літаратурны працэс.**

## «НЕМАН»

**У паэтычным раздзеле—вершы С. Яўсеевай і Х. Жычкі (пераклад А. Дракахруста).**

**Апавяданні І. Пташнікава пераклаў У. Кудзінаў. Проза прадстаўлена таксама аповесцю А. Ждана «Самастойнае жыццё» і апавяданнямі А. Малашэнкі.**

**«Аповесць для сябе»—раней невядомы твор Б. Мікуліча, напісаны па-руску. Публікацыі папярэднічае слова С. Грахоўскага «Пра «Аповесць для сябе» і яе аўтара».**

**Пытанні школьнай рэформы закранае настаўніца В. Кулік—«Апраўданне Бялькава».**

**Пра адзін з цікавых беларускіх гарадоў расказвае П. Бурак—«Пінск».**

**Пад рубрыкай «Насустрач 70-годдзю Кастрычніка» публікуюцца ўспаміны Г. Гая «У баях за Савецкую Беларусь».**

**«Нататкі дылетанта»—падзагаловак артыкула Т. Чабан «Логас і мелас».**

**З рэцэнзіямі выступаюць Д. Курносаў, М. Ермаловіч, А. Кавалёва.**

**Ёсць раздзелы «На скрыжаваннях мінулага» і «Учора. Сёння. Заўтра».**

## П А Э З І Я

**Васіль ЗУЁНАК**



●

Пакуль хаджу па гэтай зямлі—
Нішто мне шляхоў не зачэрніць:
Ёсць вехі і знакі, што лёс мой вялі, —
Сутнасці вызначэнне.

Любая бяда для мяне паўбяды,
Бо дваццаць другога чэрвеня
Стаіць двайніком за плячыма заўжды—
Пакут і слёз вызначэнне.

Прайшло праз дзяцінства
ваенных дарог
Вогненнае перасячэнне.
Са мной—найвялікшая з Перамог —
Мужнасці вызначэнне.

І так, і гэтак дратуюць гады,
І свет наш—не з мёдам пчэльнік,—
За праўду стой, не муці вады —
Нязломанасці вызначэнне.

То сонцам адорыць, то градам паб'е
Ніву маю пад карэнне,—
Жыццё, я за ўсё удзячны табе—
Песні маёй вызначэнне.

Хоць поўдзень высока, ды ўжо на страсе
Мільгнуў мой прамень вячэрні:
Жніўё для парасткаў новых засей—
Няспыннасці вызначэнне.

Ад слова і памяці роднай зямлі
Мяне не грызло адрачэнне,—
І продкі са мной і нашчадкі былі—
Веры маёй вызначэнне.

І сыну бацькоўскі мой запавет,
Апошні наказ, даручэнне:
З імем Радзімы выходзіць у свет—
Будучыні вызначэнне.

### *Купала*

Раздарыла сыноў сваіх...
Дастаеўскі, Міцкевіч, Біруля...
З імі голас, і зрок, і слых
Аддавала ў людзі матуля...

Раскідала зярняты свае...
Слыў чылійцам вучоным Дамейка...
Дзе, якая гнёзды віе
Аж за трыдзевяць мораў зямелька?..

Авансцэны узлёт—як абрыў.
І каб маці ўтрапёна маўчала—
Гэтак голасна ў свет гаварыў
Шверубовіч з Вільні—Качалаў.

Хтосьці зблізку забыў, хто здалёк...
І аднойчы маці сказала:

— Ты збяры, прысаром іх, сынок...—
І тады ў людзі выйшаў Купала.

### *Лета трывожных дажджоў*

Ліпнёвую ноч бліскавіц паясы
Святлом абпраменьваюць рэдкім.
Іглістай нейтроннай іскрацца лясы,
Чарнобылем пахнуць кветкі.

Сухое чаканне трывожных дажджоў
Стаіць на покуці ў лета.
Распяты на ценях касмічных крыжоў,
Бяздомна лячу над планетай.

«Што я нарабіў,—праклінаю сябе,—
Якія бяздонныя сілы
Я выпусціў, покуль бяздумна гарбеў
Над тайнаю, як над магілай...

Вазьміце, вазьміце ўсю тайну маю
За той васілёчак у жыце...
Я сам сябе—сам сябе!—не пазнаю:
Я д'ябал ці бог—адкажыце...»

Ды глуха глытаючы вечнасці шум,
Нямко з электронным блокам,
Як смерць, адзінокі, глядзіць у душу
Гадзіннік трынаццатым вокам...

### *Кропля*

*САНЕТ*

Упала кропелька чырвоная на дол—
І ножык, бог кухонны, не заўважыў,
І нават палец заўтра не адкажа:
То быў парэз ці гэта быў укол,—

І нехта пройдзе за святочны стол,
Пакіне шумна след свой нехлямяжы,
І ў бруд затопча кроплю, і наляжа
На закусь пад размовы пра футбол...

Бязгучна ўпала кропелька крыві
І не сказала: «Тайну не гняві...»
Яна маўчала, як маўчыць сусвет,

А ў ёй крычала будучыня наша:
Мільён галактык, сонцаў і планет
Упала ў небыццё з крывавай чашы...

●

Жыццю патрэбны Мефістофелі...
Бародка-клін «а la kazjol»,
Капыт, прыглушаны пантофляю,
І ў позірку—цяжкі падзол.

Такі партрэт. Амаль класічны.
Ды гэта рэдкі антураж.
А так, прызнацца, сімпатычны
І звычны Мефістофель наш.

Касцюм з іголачкі і гальштук?
Пасада ёсць і кабінет?..—
Вы здагадаліся амаль што.
Аднак і тут не ўвесь сакрэт.

А басаножі? А ў джынсах фірменных?
А той, з «авоськай» у руцэ
З пустою пляшкаю кефірнаю,
Знаток артыкулаў і цэн?

А той—атлет з крутымі персямі?
А гэты—здохленькі, рабы?—
Ці ён у штаце, ці на пенсіі—
Хіба не варты д'яблам быць?

Жыццю патрэбны Мефістофелі.
Інача смерць, інача тло.

## П Р О З А

# Дзень, калі ўпала страла



**Уладзімір АРЛОЎ**

**Падзеі ў аповесці «Дзень, калі ўпала страла» адбываюцца ў Полацку на пачатку XIII стагоддзя, у той час, калі палачане мужна змагаліся з наступам нямецкіх рыцараў-крыжакоў на крывіцкія землі. Вялікі князь полацкі Уладзімір таемна рыхтуе паход на Рыгу. Крыжакі, здагадваючыся пра намеры непакорлівага князя, засылаюць у Полацкае княства сваіх выведнікаў...**

**Цалкам аповесць будзе друкавацца ў часопісе «Маладосць».**

**АЎТАР.**

1

ПА ВЫСОКАЙ дзвінскай вадзе плылі ў мора апошнія крохкія крыгі. Сівы ў яблыках конь, спынены на самай строме, пудка пераступіў нагамі, але вершнік злёгку сціснуў яму бакі, і сівы супакоіўся. Застыўшы ў сядле, князь Уладзімір глядзеў на горад за ракой. Над нізкімі пасадамі, насупроць амаль схаванай паводкаю выспы, што ляжала леваруч князя, падымаліся ўжо кранутыя зелянінаю валы дзядзінца, а яшчэ вышэй плылі па небе ў далячынь сем вярхоў Сафіі.

Зазванілі да палудніцы. Першым ударыў па сонечнай цішы сафійскі званар. Яму адразу адказалі Спас-Ефрасіння і Бельчыцы, а трохі счакаўшы, уступілі ў перазовы астатнія манастыры і цэрквы. Нейкі званар весела зачасціў, але, як быццам узгадаўшы, што не такія цяпер часіны, каб бескларотна тузаць за вужоўкі, асадзіў сябе, і ягоны звон таксама загучаў няспешна і разважліва.

Шматгалосая размова званоў нараджала ў душы князя дзіўнае пачуццё, у якім спакойная вера, што гэты крывіцкі горад будзе стаяць над Дзвіною давеку, спляталася з адчуваннем незвычайнай дужасці з юначым жаданнем зліцца з канём і мчаць па далёкіх дарогах, чуць вецер у вушах, спаць адным вокам каля лясных вогнішчаў... Пачуццё было такім моцным, што князь радасна разгубіўся. Яшчэ колькі імгненняў ён глядзеў на магутную рачную плынь, на тры стругі пад белымі вятрыламі, што падыходзілі да дзядзінца, і раптам рэзка павярнуў сівага і наўскапыт паляцеў па разложыстай лугавіне.

Толькі ва ўмывальні, скінуўшы кальчугу і на хвілю прысеўшы на шырокі ўслон, ён адчуў, як гудуць ад стомы рукі, як ные левая нага, зачэпленая некалі літоўскай суліцай*. Але стома была не прыкрай, а ўсцешлівай. Князь ведаў, што заўтра ўранні зноў, поўны спрыту і маладой моцы, у кароткай кальчузе і шаломе з барміцай, выйдзе на ганак з разблёнымі балясамі, і дружына так выгукне «Слава князю Уладзіміру!», што ва ўсім бельчыцкім** наваколлі на момант здзіўлёна замоўкнуць жаўрукі.

Другі месяц князь не дае спачыну ні сабе, ні дружыннікам. Нават ваявода Віславус і той дзіву даецца, як улёг ён у ратныя забавы. «Не маладзён ты ўжо, князь, — сказаў неяк ваявода,—не дваццаць табе летаў. Дай удам*** перадых». Уладзімір адно засмяяўся і па-ранейшаму дзень пры дні выводзіў дружыну на падсохлую галявіну за частаколам княжага двара, як і ўсе браў у рукі адмысловы тупы меч, страляў з лука, кідаў у дубовага, глыбока ўкапанага ў зямлю балвана цяжкае кап'ё, цэлячы то ў голаў, то ў грудзі, і не бачыў, але адчуваў ухвальныя позіркі Віславуса і ваяроў.

Па паглядным князевым твары ў аздобе густых кучаравых валасоў знячэўку прабег цень. Уладзіміру ўспомнілася, як учора пасля вячэрні гутарыў з ігуменам Лукой. Трасучы ад злосці сівой казлінаю бародкай, шчупленькі Лука выгаворваў князю, што не ў адных святых Барыса ды Глеба з бельчыцкага храма просяць яго-ныя кметы ратнай удачы. Манахі асачылі, што ўначы людзі з дружыны таемна пераплываюць на чаўне раку і прабіраюцца на старое капішча ля Валовай азярыны, дзе яшчэ Рагвалодаў унук князь Ізяслаў паліў паганскіх ідалаў. Ён, Уладзімір, пераказаў ігуменавы словы ваярам. Гаварыў сурова, угладаючыся ў вочы, але шукаць вінаватых не стаў. Не той час, каб сварыцца з дружынаю. Відаць, сёй-той здагадваецца, што не просты паход збірае ён цяпер. Можа, таму і ходзяць на паклон да даўнейшых багоў. Дый сам грэшны, таксама таптаў сцежку да заклятае азярыны. Хоць і даўно тое было, ды, пэўна, ведае ігумен пра грэх. Але не толькі таму чарнарызец так барадою трос. Князь сам сабе ўсміхнуўся: «Рысь стракатая ізвону, а чалавецы лукавыя знутры». Гэта нагадвае яму Лука, што дакляраваў адпісаць манастыру забалоцкі поплаў, а спраўдзіць не спяшаецца. Мала ім трох весяў са смердамі. Цяпер не выкруцішся, трэба на ігуменаў гнеў, як на хвалі, алею выліць. З ім вадзіцца таксама не след, дасць бог, будзе лепшая пара.

Князь пазваніў у званец, і ў два мігі на парозе вырас халоп з рукамыем заморскае работы. Скінуўшы апратку, Уладзімір залез у вялізную ліповую балею і з насалодаю падставіў крутыя рамёны і ўсё вялікае, гарачае яшчэ цела пад сцюдзёны струмень з меднай ваўчынае пашчы. Ён радаваўся вадзе і пялёхаўся, як малое дзіця.

— Глядзі, куды льеш! — нязлосна, але зычна крыкнуў на халопа, і той з перапуду бухнуўся валадару ў ногі.

— Хрэсціцца раб божы Мікола,— гундоса і нараспеў, удаючы ігуменаў голас, прамовіў Уладзімір і выплюхнуў на саламяную халопаву галаву рэшту вады з рукамыя.

— Не гневайся, княжа...— цягнуў, лежачы ў лужыне, халоп.

— Калі гневаюся, не ваду лью,— памяркоўна сказаў князь.— Давай ручнік і накажы, каб шукалі Барыску. Няхай да мяне ў святліцу ідзе.

Хутка русявы прычасаны Барыска ўжо стаяў у дзвярах і церабіў крысо чырвонага каптанчыка. Было відаць, што і твар, і рукі малому вымылі кагадзе. Не вытрымаўшы дапытнага позірку шэрых бацькавых вачэй, хлопчык утупіўся ў маснічыну.

«Падрос Барыска, у плячах пачаў гэтай вясною шырэць. Воін расце», — падумаў князь. Падумаў з цеплынёй, што заўсёды агортвала душу, калі быў з сынам, але ўголас сказаў строга:

— Нягожа, князь Барыс, вочы долу апускаць. Полацкія князі не ў зямлю, а ў неба глядзець мусяць. І не ў парозе іх месца. Хадзі бліжэй!

Барыска нясмела падышоў.

— Дзяк казаў, да навукі ты дужа здатны. Даўно паглядзець збіраюся, чаму ён цябе навучыць паспеў.

Княжыч заліўся чырванню, але пазіраў ужо без боязі.

— Ну-тку скажы, якое цяпер лета ад стварэння свету?

— Лета шэсць тысяч семсот дваццаць чацвёртае *,— як па-пісанаму адмалаціў Барыска.

«Славаю ці ганьбаю маёй застанецца яно ў летапісах?» — укалола князя раптоўная думка, але ён не даў ёй волі.

— А лічыць ці добра ўмееш? — працягваўся іспыт.— Ёсць у мяне пяць крэчатаў, а як выпушчу я іх, саб'е кожны па дзве белых лебедзі. Колькі будзе лебедзяў?

— Два разы па пяць, а разам дзесяць, як пальцаў на руках,— не задумваючыся, адказаў Барыска.

— Гожа.

Князь узяў з падваконца кнігу ў багатых абкладах, адплікнуў залачоную засцежку і прывычна знайшоў «Сказанне аб Індыйскім царстве», якое любіла першая жонка-нябожчыца.

— Чытай!

— «Царства маё такаво,— бойка пачаў Барыска.— Ісці на адну старану дзесяць месяцаў, а на другую няможна дайсці, бо саткнуліся там неба з зямлёю. Ёсць у мяне ў адной зямлі людзі немы, а ў другой зямлі людзі рагаты, а ў іной людзі трохногі, а іныя людзі дзевяці сажняў, іжэ суць валатове...»

— Лепа, — пахваліў князь.— А можа, на памяць зацвердзіў, як малітвы, га? — Ён успомніў, як некалі, на пачатку вучэння, сам рабіў гэтак, каб байчэй атрымлівалася, калі бацька скажа пачытаць гасцям.

Княжыч закруціў галавой, і Уладзімір пашкадаваў, што скрыўдзіў сына, але, нахмарыўшы бровы, перагарнуў старонку і паказаў:

— Вось тут чытай.

— «Ёсць у маёй зямлі пеўні, на іх людзі ездзяць,— водзячы пальцам па пергаміне і ўпэўнена разбіраючы цітлы, чытаў Барыска.— Ёсць у мяне птушка нагой, уе сабе гняздо на пятнаццаць дубоў. Ёсць у маім царстве птушка фенікс, звівае сабе гняздо на ноў месяц і прыносіць агню нябеснага і сама паліць гняздо сваё і сама тут згарае, і ў тым попеле зараджаецца зноў і пер'ем абрастае, а плоду няма ад той птушкі, а жыве яна пяцьсот лет.— Ад старання на носе ў хлопчыка выступілі расінкі поту. — А пасярод майго царства плыве рака Эдэм з раю, у той рацэ емлюць драгія камні акінф і самфір, і памфір, і ізмарагд, сардзік і аспід, цвёрд жэ і акі вугаль гарыць...»

Барыска перавёў дых і, пэўна, таму, што ніводнага разу не збіўся, насмеліўся запытаць:

— Няўжо гэта праўда ўсё, тата?

— Багата дзіўнага, сыне, ёсць на божым свеце. А каторыя дзівосы і самі людзі вымыслілі, каб пацеху з таго мець. Склалі гэтую кнігу ў Грэках, а тлумачаная яна і перапісаная вучонымі мніхамі па ўказу нашай князёўны Прадславы Святаславаўны, у манастве прападобнай

* Кароткім кап'ём.
** Полацкія князі жылі ў Бельчыцах, на левым беразе Дзвіны.
*** Целу, рукам і нагам.

* Паводле сучаснага летазлічэння — 1216.

Тут знак не ў барадзе, не ў профілі:
Сэнс—адмаўленне, корань—зло.

Калі нутро нячыстай сілай
Гарыць, атрутнае, ці тлее,
Які сардэчны ён і мілы—
Нібыта друг на юбілеі.

Калі агнём звініць рэклама,
Шыкуе ярмаркай эпохі,
А за агнём—пустая крама,—
Тут ён таксама,
Мефістофель.

Калі пацееш ты ля ворыва,
Дык ён пяклуецца ляварыва,
За жонкаю тваёй з прытвораю
Ляціць, як Дэман за Тамараю.

Калі радзее рацъ аратых—
Дык гэта ён збірае кворум,
Бюро пракату бюракратаў
Зрабіўшы з кожнае канторы.

Калі ў палескую Арэсу
Канал капаецца з Адэсы,
Каб воды—іменем прагрэсу —
Зноў да вытокаў перакінуць,—
Не лайце ГЭСы і АЭСы,
Бо Мефістофель тут павінны...

Калі Чайкоўскага камп'ютэрам
Ты замяніць імкнешся глуха,—
Знаць, з Мефістофелем пагутарыў:
Ён наступіў табе на вуха.

Быў гончы, а цяпер во гоначны
Завёўся бог з акладам цвёрдым:
Спартыўны гонар наш баронячы,
Б'е з Мефістофелем рэкорды...

Усюды ён: як стымулятар,
Як дрожджы ў месіве гісторыі,
Маэстра і артыст-аматар,
Трыбун і першая апора.

Усюды: мецэнат, балельшчык,
Маг і магістр філасофіі,—
Усюды: ад сталіц да Лельчыц...
Жыццю патрэбны Мефістофелі.

## Ліпнёвае

Дзень пчэльны, сонцам поўненькі,
Звініць на цэлы свет.
Крамяныя бульбоўнікі
Аздобіў сіні цвет.

Рыпіць над полем вагамі
Паўдзённая сухмень.
Вусы—піўцо з прысмагаю —
Пагладжвае ячмень.

Зязюля аблінялая
Задыхана ляціць:
«Дзяцей не гадавала я,—
То хто ж не падасць мне піць?..»

Бусліха трызніць Афрыкай,
А бусел-целяпень
Навіны тэлеграфныя
Збірае на слупе...

Дзяжурыць ён па графіку
У тым, ля дратоў, гняздзе:
«Сюды б мне, кажа, Афрыку,
Як сівер загудзе...»

Папаскаю агульнаю—
З каровамі шпакі:
На лузе панагульвалі
Тугія валлякі.

Да выраю далёкага
Драчы здаюць свой крос.
Спявае і галёкае
Ліпнёвы сенакос.

Дажджы ў хмурынкі рэдзенькай
Сплываюць на хвасце.
І дзеці, як мядзведзікі,
У малінавым кусце.

●

Асенняе шматкроп'е жураўоў
Злятае ў вечнасць са старонак неба,
Пакінуты шматзначна без правоў
Пражыты дзень, як парастак без глебы..

А заўтрашні? Як прачытаць яго?
Хто разгадае тайныя пісьмёны,
Што праступаюць з дальніх берагоў,
Тым развітальным крыкам
заімглёных?..

Мінулае рукі не падае,
А будучае дзесьці за вякамі,
Апошні клін у небе растае,
Жыццё маё смяротна рассякае...

## Калядная песня ў пячоры

Міхасю ДРЫНЕЎСКАМУ

Ні сёння, ні заўтра, ні ўчора,—
Згубіўся зняверланы час.
Калядная песня ў пячоры
На неба узводзіла нас.

«Адкуль вы і хто вы, дзяўчаты?»—
Пытаўся каменны дракон.
А тыя нібыта на свята
Стаялі ля светлых вакон.
Кружыліся гукі, як гусі,
І рэха нясла ў далянях
На голас маёй Беларусі
Славенскай зямлі глыбіня.

То бралася змрокам вячэрнім,
То смехам будзіла гару
Вясёлых правін адпушчэнне
З паклонамі гаспадару:
«Ды няма ні ў кога
Каня такога...»—

Марозна звінелі падковы,
Высвіствалі палазы,
І светла вяла Міранкова
Святлана дзяўчат галасы.

Гулялі завейна пагляды,
Люлялі калядніцы ціш,—
Сустрэнься з такой на каляды—
І ў пекле па-райску згарыш!..
«Ды няма ні ў кога
Двору такога...»—

Забыты дарогі, атэлі:
Падземная зала была
Тым дворам, дзе сэрцы святлелі...
І плакала ў змроку скала.

І грэшны анёл з падзямелля—
Маэстра—натхнёна ляцеў...
І ўсе святыя нямелі,
І кожны быць грэшным хацеў!..

---

Ефрасінні. Казаў табе дзяк пра яе?

— Казаў. Помніць, як у святы град Ерусалім яе праводзілі. Чытаць далей?

— Чытай, чытай... — няўважліва адгукнуўся спахмурнелы раптам князь.

Хутка і яго Полацк правядзе. Ці паслухае ён пераможную ютрань у Сафіі? Ефрасіння дадому не вярнулася. Можа, і ў ягонай кнізе лёсу тое ж запісана? А калі не вернецца, хто на полацкі стол сядзе? За душу ўзяла крыўда невядома на каго. З першаю жонкай не было дзяцей, а сыны, што даў бог са Звеніславаю, яшчэ ў такіх летах, што наперад не загадаеш. Барыску нядаўна толькі грамаце вучыць аддалі, а Глеб зусім малы, ад зямлі меч не адарве.

— «Ёсць у мяне палата злата, а ў ёй ёсць зярцала праведнае, стаіць на чатырох слупах златых. Хто зрыць у зярцала, той бачыць свае грахі, якія сатварыў ад маладосці. Блізка таго і другое зярцала, скляное...» — чытаў Барыска.

— Досыць, сыне, — адарваўся ад нялёгкіх думак князь.— Бачу, не дарма дзяк мой хлеб есць. А скажы, у ваярскай справе як паспеў? З лука ці гожа б'еш?

— За дваццаць сажняў у маладую бярэзінку пацэлю. А меч Ратмір не дае.

— Чаму?

— Кажа, — збянтэжыўся Барыска,— пуп развяжацца.

— А што, не развяжацца? — засмяяўся князь, трасянуўшы шорсткімі русымі кудзерамі.

— Не! — цвёрда сказаў хлопчык.

— Ладна, загадаю, каб даваў табе меч.

— Тата, — дазвання асмялеў Барыска, — а ці хутка мяне на вайну возьмеш?

У князя зашчымела сэрца. Узбегла на памяць, як самога бацька ўпершыню ўзяў у набег, як першы раз пачуў посвіст чужынскай стралы... Ён прыгарнуў малога да грудзей, правёў калянай далоняй па ядвабных сынавых валасах. Дзве макаўкі ў Барыскі на галаве, як і ў яго самога. Кажуць, шчаслівы знак.

— Хутка ўжо. Чатыры леты засталося *.

— Чатыры леты... — расчаравана працягнуў хлопчык.— Тады хоць у пацешную вайну навучы, што з Віславусам гуляеш.

— Ну, на такую вайну табе ўжо можна. Калі хочаш, зараз і паваюем.

— Хачу! — успыхнулі вочы княжыча.

Уладзімір узяў з паліцы куфэрак са сланавай косці і высыпаў на сталец дзве жмені жаўтлявых касцяных фігурак. Стальніца была не простая — паперамена выкладзеная кавалачкамі светлага і цёмнага дрэва.

— Вось гэта ратнік.— Князь паставіў на светлае поле першую прысадзістую фігурку ў шаломе і з барабанам у руках. — Ідзе ратнік на бітву адно ўперад, назад яму дарогі няма. — «Назад яму дарогі няма»,— міжволі паўтарылася ў князевых думках.— А гэта ладдзя, мяно ёй таксама насада...

У святліцу зайшоў ваявода Віславус. Быў ён круглатвары, з кароткай барадой і сінімі вачыма, яшчэ малады, але трымаўся паважна, не раўнуючы, як знакаміты баярын. З хвіліну ён чакаў, але князь так улёг у гульню, што не чуў ваяводавых крокаў. Тады Віславус керхануў у кулак і, пакланіўшыся, загаварыў:

— Новыя паслы ад чудзі прыйшлі, князь...

* У той час у землях усходніх славян княжага сына ў тры гады садзілі на каня, у сем пачыналі вучыць грамаце, а ў дванаццаць бацька браў отрака на вайну.

2

Тры вялікія стругі пад белымі ветразямі прысталі побач з дзядзінцам, акурат там, дзе Дзвіна прымае ў свае берагі нетаропкую Палату. Наладаваныя футрам і воскам караблі прывялі віцебскія купцы, што ўпершыню пасля зімы кіраваліся водным шляхам у Рыгу. Разам з імі сышоў на бераг рослы падхорцісты чалавек у світе з грубага сукна. Два дні таму ён, не таргуючыся, заплаціў купцам паўгрыўні, каб давезлі да стольнага Полацка. Назваўся аршанскім майстрам-лучнікам Богушам. Едзе па навуку да полацкіх майстроў, бо чуў: іхнія стрэлы за сотню крокаў прабіваюць нямецкую браню, нібы тую кляновую дошчачку.

Богуш прыгладзіў узбунтаваныя ветрам бялявыя валасы, тройчы перахрысціўся на сафійскія крыжы і рушыў па гразкім пасля ўчарашняга дажджу ўзвозе да торжышча. Гадоў аршанскі майстра меў за тры дзесяткі, ногі ў новых пасталах ступалі лёгка, а на плечуку на выслізганай да бляску кульбе вісела радняная кайстра.

На таргу ён купіў падрумянены пірог з зайчынай і, памалу адкусваючы, прайшоўся паміж паўпустых у будны дзень прылаўкаў. Спыніўся каля дзеда, што гандляваў рыбаю, прыцмокнуў языком, кінуўшы вока на ляшча, які не ўтоўпіўся ў драўлянае вядро. Падзівіўся на двухгаловых хвастатых звяроў, што шчэрыліся з калчанаў. Прыслухаўся да размовы двух дружыннікаў у дашчатых бронях * і адразу неяк наструніўся. Ваяры гаманілі, як учора на княжых борцях злавілі пчаладзёра.

— Прывялі таця ў церам,— апавядаў старэйшы векам дружыннік,— дык на калені заваліўся і якоча: «Памілуй, княжа, не ведаў я, што твой мёд краў!» А князь рачэ: «А хіба не ведаў ты, што мёд гэты не твой?»

Вої засмяяліся.

— І піўцом князь пачастуе, і слаўцом, — скрозь смех сказаў малодшы.

— А ці ведаеш, рачэ князь,— працягваў старэйшы,— што над табой немцы ўчынілі б? Галавой — у лазьбень з мёдам, і пі, пакуль душа не адляціць.

Богуш на крок адступіў, але слухаць стаў яшчэ ўважней.

— Ага, — згадзіўся малодшы. — Чалавек з леціголы ** баяў. Рытары *** ў іх борці адабралі, а пчаляроў у мёдзе патапілі.

Неспадзеўкі на торжышчы ўсчаўся крык. Усе, хто мог, рынулі да ракі. Прылаўкі зусім апусцелі, каля свайго тавару засталіся адно ганчар з бондарам.

На беразе вірыўся і рос вялікі збой гараджанаў. Тут былі і купцы, і рукамеслыя людзі ў магерках, і манахі ў даўгіх чорных рызах. Наперадзе тырчалі чырвоныя баярскія шапкі з сабалінаю ірхой. Богуш, націскаючы плячом, прабраўся ўперад. Пры самай вадзе ляжалі двое мужчын з туга скручанымі скуранымі паскамі рукамі і нагамі: адзін — таўсматы і вірлавокі, другі — драбнаваты і вастраносы, з ускудлачанай галавой. Апранахі на абодвух былі разадраныя і прыпаленыя.

* Даспех накшталт кальчугі, але зроблены з металёвых пластачак.
** Лецігола — продкі латгальцаў.
*** Рыцары.

Поруч з Богушам апынуўся той самы дзед, што прадаваў ляшча, — прыклыпаў са сваім вядром, з якога вытыркаў рыбіны хвост.

— Што за людзі? — напаўголасу запытаўся аршанскі майстра.

Сусед аказаўся гаваркі.

— Нямчыны-выведнікі, у нядзелю злоўленыя. Таўсты на Ганчарным канцы ў студню зелле сыпаў. Хацелі яго з той студні напаіць, дык так зубы сцяў, што мячом не расціснеш. Тады сабачку валачашчаму тае вады далі. Сабачка і пажыў, як Дзвіну на чаўне пераплысці. А гэтага, — кіўнуў дзед на ўскудлачанага,— Няжыла з Запалоцкага пасада злавіў. На пастой да Няжылы папрасіўся, а ў сне па-свойму гергетаць пачаў. Пад жаркім жалезам абое прызналіся.

Богуш упіўся вачыма ў звязаных выведніках.

— А кажуць жа, у князя Уладзіміра вечны мір з Рыгай,— зноў загаварыў ён да дзеда.

— Мір, — пацвердзіў той.— Купцоў нямецкіх князь у крыўду не дае. Дружына іхні тавар вартуе. А выведнікаў князь наказаў не літаваць.

— Пасаднік, пасаднік!.. — пранеслася па натоўпу, і людзі расступіліся, даючы дарогу чатыром цівунам і пасадніку ў вавёркавым футры.

Вастраносы кудлач, што дагэтуль ляжаў ціха, перакаціўся са спіны на бок, тварам да натоўпу, і тонкім пакутным голасам закрычаў:

— Людзюхны, ратуйце! Не нямчын я, людзюхны! Пятром мяне завуць. І бацька быў Пятро. Купец я з Друцку. Адстаў ад сваіх, хацеў на вялікдзень у святую Сафію схадзіць. Жонцы і дзеткам хацеў пасвячонае ў Полацку яечка прывезці. Няжыла мяне апаіў і грошы забраў, а пасля нямчынам абвясціў!

Збой прыслухаўся і пацішэў.

— Пятро я. Хрыстом-богам прашу, не губіце нявінную душу! — маліў вастраносы. Богуш глядзеў на яго, і на твары аршанскага лучніка не было шкадобы.

Але знайшліся ў грамадзе і жаласныя сэрцы.

— Можа, і праўда Пятро ён? — прамовіў нехта.

— На агнёвым роспыце прызнаў сябе нямчынам! — гучна сказаў да людзей пасаднік.

— Грэшны, не сцярпеў пакуты,— зноў падаў голас кудлач.— Сам на сябе нагаварыў.

— Да князя паслаць! Няхай князь судзіць! — закрычалі ў натоўпе.

— Другі ў князя клопат. Перавозчык паслоў у Бельчыцы павёз. Можа, і нашай ён крыві,— пасаднік паказаў нагой у зялёным боце на вастраносага,— ды ўсё адно паравэтнік *. А паравэтнікаў князь Уладзімір загадаў судзіць скора.

Збой незадаволена загудзеў.

— Пятро я! — адчайдушна заекатаў кудлач. — Крыж буду цалаваць, што Пятро!

У гэты момант нечакана загаварыў таўсматы выведнік. Ён сказаў толькі тры словы:

— Яго імя Готфрыд.

— Не верце яму, людзі! — у смяротным жаху заверашчаў кудлач.— Бога ў цябе няма, лацінец пракляты!

— У Дзвіну іх! — выгукнуў Богуш, і вакол таксама закрычалі:— У Дзвіну!

Пасаднік махнуў рукой. Цівуны забілі раты выведнікаў анучамі і пацягнулі абодвух да чаўноў. У вострых вачах аршанскага лучніка было змрочнае задавленне. Грамада зноў загула, але ў гэтым гудзе ўжо не было шкадавання.

— Далей адвозьце! — загадаў пасаднік. — А то вада спадзе, дык с...кі тырчаць будуць.

Чаўны хутка выйшлі на строму. Цівуны, надзеўшы выведнікам на шыі пудовыя камяні, асцярожна, каб не выкуліцца самім, спіхнулі іх у каламутную імклівую ваду.

— Ні воўк ваўка, ні змяя змяю не губіць, а чалавек чалавека губіць і радасць з гэтага мае, — пачуў аршанскі майстра. Гаварыў, хрысцячыся дрыготкай рукою, падстаркаваты манах.

— Нядобра кажаш, мніх. Не да такога чыну словы,— сурова азваўся нехта.— Самі яны свае душы загубілі.

Збой ужо рассыпаўся, як па-над берагам разлёгся ўсцешаны жаночы крык:

— Глядзіце! Глядзіце!

На ўзвозе зарагаталі. Богушавы вусны таксама расцягнуліся ў міжвольнай усмешцы.

Хтосьці, відаць, нейкі весялун з княжых вотчын, што стаялі вышэй горада, пасадзіў на крыгу жарага, як агонь, пеўня. Крыгу несла па самым быстраку, а небарака-певень на ўсцеху разявакам мітусіўся на сваім хісткім прыстанку і раз-пораз пачынаў махаць крыламі, нібы збіраўся пераляцець на трывалае месца. Але да зямлі было не меней трацiны палёту стралы. Жарага гарапашніка зглядзелі і на чаўнах. Пад радаснае галёканне берага весляры павярнулі і ўзялі наперахоп крызе. Людзі не разыходзіліся, пакуль уратаванага пеўня не выпусцілі на траву.

Пасля гэтых прыгодаў Богушавы пасталы адмералі яшчэ не адно попрышча па драўляным насціле вузкіх вулак дзядзінца і па гразі вакольнага горада і Вялікага пасада, дзе дамы стаялі рэдка, а ў гародах ужо прабілі зямлю першыя стрэлкі цыбулі. Адвячоркам лучнік маліўся ў царкве за Чорным ручаём і паставіў свечку перад абразом багародзіцы. А калі на горад апусцілася знобкае красавіцкае сутонне, Богуш, распытаўшы перад тым, дзе жыве кастапраў Даніла, пераехаў у ціхае Запалоцце і пастукаў у дзверы моцнай хаты над Палатой. Пастукаў адмыслова: два разы гучна і тры — прыцішана.

* Здраднік.

# КРЫТЭРЫЙ—ЖЫЦЦЁВАСЦЬ І МАСТАЦКАСЦЬ

**«Круглы стол» «ЛіМа» ў Саюзе мастакоў БССР**

*«Творчы саюз: яго роля ў духоўным жыцці грамадства» —так можна было ўмоўна вызначыць тэму гэтага «круглага стала». Размова за ім адбывалася ажыўленая, зацікаўленая і ў многім прынцыповая. І гэта зразумела, бо праходзіла яна ў час абнаўлення, абвостранай патрабавальнасці да сябе, у атмасферы галоснасці і самакрытычнасці, што створана ў краіне пасля XXVII з'езда партыі і студзеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС. Канкрэтнай нагодай для гаворкі пра надзённыя праблемы жыцця творчага Саюза, пра тое, што турбуе і непакоіць, стала падрыхтоўка да чарговага з'езда мастакоў рэспублікі, які пачне сваю работу праз тыдзень, 20 сакавіка.*

*У гаворцы за «круглым столам» удзельнічалі: сакратар праўлення СМ рэспублікі, народны мастак БССР А. Анікейчык, старшыня бюро секцыі графікі, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Л. Асецкі, мастак-графік У. Басалыга, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Г. Вашчанка, сакратар праўлення Саюза мастакоў БССР У. Гоманаў, старшыня бюро секцыі крытыкі Б. Крэпак, начальнік аддзела выяўленчага мастацтва Міністэрства культуры БССР Г. Лойка, мастак-жывапісец В. Маркавец, старшыня бюро секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Т. Сакалова, заслужаны настаўнік БССР, адказны сакратар СМ БССР Л. Салавей, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР У. Стальмашонак, скульптар Л. Фінскі, народны мастак БССР Л. Шчамялёў.*








Л. ШЧАМЯЛЕЎ Т. САКАЛОВА Л. САЛАВЕЙ У. БАСАЛЫГА А. ФІНСКІ Г. ЛОЙКА

**Б. Крэпак:** Мне здаецца, што нельга асэнсаваць узнятую тэму без заглыблення ў тыя праблемы, якія вызначаюць і сённяшні дзень, і будучыню нашага Саюза. Першая — якасць твораў, якія экспануюцца на выстаўках і якія ўпрыгожваюць нашы быт і жыццё паўсядзённа (пленэрная пластыка, творы манументальнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтваў, станковы жывапіс і графіка). Другая праблема, цесна звязаная з першай,—прапаганда гэтых твораў. Трэба сказаць, што за апошняе дзесяцігоддзе праблема гэтая амаль не зрушылася з месца.

**У. Гоманаў:** З гэтым нельга не пагадзіцца. Прапаганда твораў мастацтва сапраўды ідзе без іх асэнсавання, інфармацыйна, калі не сказаць: прымітыўна.

**Л. Шчамялёў:** Вядома, не прыцягнеш увагу да выставак, калі іх будуць прапагандаваць так, як гэта зрабіў нядаўна на тэлебачанні Валерый Буйвал. А перадача ж была для юнацтва, маладых людзей, вымагала гаворкі сур'ёзнай, кампетэнтнай.

**Б. Крэпак:** Факт тым больш сумны, што вядучы — член нашага маладзёжнага аб'яднання, мастацтвазнавец... Дарэчы, праблема творчага росту маладых мастакоў і крытыкаў — гэта трэцяе, пра што нам абавязкова трэба сёння пагаварыць, тым больш, што работа самой маладзёжнай камісіі, пакідае жадаць намнога лепшага. Яе работа зводзіцца да размеркавання творчай дапамогі ды арганізацыі так званых «ціхіх» маладзёжных выставак, на якіх і дыскусіраваць няма пра што. У выніку мы атрымліваем тое, аб чым так часта наракаюць у артыкулах і гавораць з трыбуны пра «творчасць маладых»: сацыяльнае раўнадушша, адыход ад вострых грамадскіх тэм. Тыя ж, хто такія тэмы не абмінае, працуюць «халоднымі рукамі», і гэтым толькі дыскрэдытуюць значную тэму. Так, нямала маладых жывуць у сваім маленькім свеце, у сваім «скіце», пазачыняліся на мансардах і ў падвалах-майстэрнях, а часцей за ўсё — дома, паміж шафай і дзіцячым кутком, адгарадзіўшыся ад таго, што робіцца ў вялікім свеце. Але ці толькі яны ў гэтым вінаватыя?

**У. Басалыга:** Тут ёсць пра што пагаварыць, над чым падумаць, ёсць нагода — выстаўка «Маладосць рэспублікі»...

**А. Анікейчык:** У тым-та і штука, што праблема выхавання моладзі для нас — «любімы канёк». Мы, на жаль, толькі пра яе гаворым, на справе мала што робім пасля таго, як выпускнік пакідае сцены інстытута. Натуральна, што агульная «гаварыльня» адбіваецца на якасці мастацтва. Скажам, вучыцца студэнт няблага, у выстаўках удзельнічае, а трапляе ў наша мастакоўскае асяроддзе на самастойныя «хлябы» і... чалавека няма. Ці ж гэта не важная, сацыяльная праблема? Адкуль яна вынікае? Відаць, з няўмення, а дакладней, з нежадання дыферэнцыраваць мастакоўскую моладзь на таленавітых і неталенавітых. Гэта выяўляецца потым толькі праз іх самастойную дзейнасць. На жаль, часта бывае так, што дыплом становіцца «лебядзінай песняй» маладога мастака, на якога так спадзяваліся яго педагогі... А стаўку з самага пачатку трэба рабіць на сапраўдны талент. Колькі сёння членаў маладзёжнага аб'яднання?

**Б. Крэпак:** Разам з тымі, што ў абласцях,— каля ста пяцідзесяці...

**А. Анікейчык:** А ці набярэцца з іх хоць бы трыццаць чалавек, якіх мы можам упэўнена назваць надзеяй заўтрашняга мастацтва? Калі набярэцца, дык на іх нам і трэба рабіць стаўку, а не абстрактна разважаць пра моладзь наогул. Менавіта гэтым канкрэтным людзям мы павінны дапамагаць матэрыяльна і маральна, ствараць умовы для іх развіцця.

**Л. Асецкі:** Але ж, Анатоль, трэба ўлічваць і тое, што не ўсё пачаткоўцам адразу пад сілу. Тут ёсць і такі аспект праблемы, як уплыў індывідуальнасці педагога на творчы почырк маладога мастака. Пройдзе пэўны час, пакуль ён вызваліцца з гэтага «палону», набудзе самастойнасць, адметнасць...

**Г. Вашчанка:** Пакуль ён стане самастойным, пройдзе першапачатковы этап станаўлення, дык яму ўжо па ўзросце трэба з маладзёжнага аб'яднання выходзіць. З аб'яднання выйшаў, а да Саюза не дарос... Наогул, мне здаецца, што аб'яднанне ўяўляе нейкую асобную арганізацыю, дзе ўсё нівеліравана, дзе ўсе ходзяць у адным рангу «усредненности». Быццам схаваліся і ад сябе, і ад праблем часу. І не дзіўна, што сёння ў нашай творчай арганізацыі, пра гэта, дарэчы, гаварыў не так даўно Барыс Крэпак у лімаўскім артыкуле, няма ніводнага члена Саюза да трыццаці гадоў. Утварыўся нейкі штучны працэс «старэння» творчай арганізацыіі, у якую па законах жыцця павінны пастаянна ўлівацца свежыя, маладыя, няўрымслівыя сілы.

**Л. Шчамялёў:** Дзе яна, тая няўрымслівасць? На жаль, не бачым мы яе і на выстаўцы «Маладосць рэспублікі». Усё тут быццам прыстойна і... сумна.

**У. Басалыга:** Але ж нам трэба разабрацца, дзе корань праблемы. Мо ён у саміх асцярожненькіх маладых людзях, якія не здольныя ні на рызыку, ні на пошук? А можа, «указующий перст» выстаўкома стаіць перад вачамі: рабі вось так, а не гэтак, а інакш не думай. Моладзь ужо добра засвоіла — запярэчыш, дык страціш матэрыяльна.

**Г. Вашчанка:** І мне таксама падалося, што выстаўку добра «падстрыглі» арганізатары. Вось чаму яна выглядае так, быццам на ёй выставіліся не маладыя людзі, а «благополученькие» старыя. Думаю, што на абмеркаванні «Маладосці рэспублікі» крытыкам не будзе пра што гаварыць. Моладзь не задала праблем, якія можна было б аднесці да разраду спрэчных, але цікавых, гэтаксама, як і праблем бясспрэчна нецікавых. Так што, калі выстаўком не рызыкнуў прапусціць у экспазіцыю творы праблематычныя, эксперыментальныя, спрэчныя, то ён зрабіў вялікую памылку.

**Т. Сакалова:** Я сама ўваходзіла ў склад выстаўкома і скажу: творы прымалі дастаткова аб'ектыўна. Проста ў цэлым быў слабы ўзровень саміх работ. Мне здаецца, што гэтая інерцыя была закладзена значна раней, і справа, паўтараю, не ў выстаўкоме, а ў тым, што моладзь ужо ведала, якіх тэм і сюжэтаў чакаюць ад яе на выстаўцы. Думаю, што прычыны —у дагаворнай сістэме, якая не дае мастаку прынесці і паказаць тое, што ён хацеў бы перш за ўсё. Вось чаму многія маладыя катэгарычна супраць дагавораў. І сапраўды атрымліваецца, што за «ката ў мяху» плацяць значна больш, чым за гатовую выставачную работу, якую наогул могуць не закупіць.

**Л. Шчамялёў:** Я не магу з вамі пагадзіцца, Тамара. Відаць, вы, маладыя, няправільна разумееце паняцце «дагавор». Тое, якой будзе дагаворная работа, залежыць, у першую чаргу, ад пазіцыі самога мастака, ад яго прафесійнай падрыхтаванасці, сумлення. Акрамя таго, што дагавор стымулюе творчую дзейнасць, ён яшчэ вымагае сацыяльнай адказнасці. Тэматыка ў высокім значэнні гэтага слова ўвасобіцца ў дагаворнай рабоце глыбей, чым кулуарны падыход да свайго твора, вядома, калі за гэтай работай — кроў і пот мастака.

**Т. Сакалова:** На маю думку, больш шырокія і аб'ектыўныя закупкі твораў з выстаўкі і стануць тым добрым стымулам творчага росту мастака — і маральным, і матэрыяльным. А пакуль бывае так, што таленавітыя мастакі адмаўляюцца ўдзельнічаць у тэматычных экспазіцыях.

**Б. Крэпак:** Вы можаце прывесці канкрэтны прыклад?

**Т. Сакалова:** Магу, і ён нават звязаны з апошняй выстаўкай. Ёсць такі кераміст Жэня Кірылаў, таленавіты хлопец. Спрабавала ўгаворваць яго прыняць удзел у «Маладосці рэспублікі». А ён ні за што не хоча, маўляў, тэматыка настолькі акрэсленая, што нічога новага, арыгінальнага там не будзе. Гаворыць, мне цікавей рабіць тое, што хачу і магу, не прымае тэматычнай зададзенасці.

**А. Анікейчык:** Любы высокамастацкі твор — заўсёды тэматычны. Гэта пацвярджае гісторыя сусветнага мастацтва...

**Л. Шчамялёў:** Гэта так, і разам з тым мы ўсе павінны заахвочваць пошук. Вунь колькі падстаў для гаворкі дае маскоўская XVII выстаўка твораў маладых з эксперыментальнай праграмай. Чаму ж нам не даць магчымасць маладым шырэй раскрыць свае здольнасці, чаму ж не паглядзець, як яны разумеюць сённяшні свет, як яго адлюстроўваюць? Упэўнены, што гледача не трэба было б агітаваць наведаць такую выстаўку. Трэба больш давяраць і мастаку, і народу. А то мы прывыклі спасылацца на тое, быццам народ нас не разумее. Гэта ў вышэйшай ступені заганная практыка.

**В. Маркавец:** Даўняя і застарэлая!

**Л. Шчамялёў:** Як састарэлі і нашы формы работы з маладымі. Яна ў нас не толькі не вядзецца, як тут адзначалася, але, што яшчэ горш, пад яе выглядам заахвочваюцца кампілятыўнасць, рэпрадукцыйнасць, імітацыя. Калі ласка, прыклад з выстаўкі «Майстры мастацтва — за мір». Малады жывапісец Бархаткоў прадставіў на яе зусім слабую работу, слабую і па тэхнічных, і па густавых параметрах. І тым не менш яна падавалася так, быццам гэта адкрыццё. Моладзь недаўмявала: дыфірамбы таму, хто проста кампілюе? Дык як можна давяраць такой крытыцы, якая псуе густы гледача і ўводзіць у зман самога мастака?

**А. Анікейчык:** Я не здзіўлюся, калі хто-небудзь з сумленных маладых людзей адмовіцца выстаўляцца разам з такімі «творцамі»... І вось тут я хацеў бы паставіць пытанне пра выстаўкі аднадумцаў, пра выстаўкі па творчых пошуках і інтарэсах. Наспеў час карэнна змяніць нам формы выставачнай дзейнасці. Гэта, вядома, не проста. Але што мы на сённяшні дзень маем? Выстаўкі, якія ладзяцца пад шаблоннымі дэвізамі. Выстаўкі, прысвечаныя розным датам, тэмам, прафесіям: міліцыі, фізкультуры і спорту і г. д. А потым яшчэ ўсе мы старэем і даходзім да розных юбілейных дат: аднаму—50, другому—70, трэцяму — 80. Даты гэтыя, вядома, трэба адзначаць. Мы разумеем, што чалавек пражыў жыццё, і, можа, адзін раз яму наканавана зрабіць персанальную выстаўку. Але вось тую семнаццацігадовую дзяўчыну, што ходзіць па праспекце, нашы «юбілейныя» турботы зусім не хвалююць. І выстаўкі ў Палацы мастацтваў таксама. І нас, аўтараў выставак, абыякавасць гэтая таксама мала кранае — нам дзяржава дае датацыю. Каб нас перавесці на самаакупнасць, каб жылі з таго, што зарабляем, мы б даўно абанкруціліся.

**Л. Асецкі:** Секцыя графікі, дарэчы, спрабавала шукаць выйсце. Без усялякіх дагавораў мы арганізавалі выстаўку малюнкаў і акварэлей у Полацку, бліжэй да гледача. Аднак сакратарыят праявіў да гэтай справы поўную абыякавасць. Ніводны сакратар не паехаў нават на адкрыццё. Ну ды справа не ў фармальнай увазе. Проста такая выстаўка сведчыць, што мы можам і павінны шукаць новыя формы выставачнай дзейнасці.

**У. Басалыга:** Анікейчык кажа праўду: трэба нам падумаць пра творчыя аб'яднанні па інтарэсах, пра выстаўкі аднадумцаў...



Л. АСЕЦКІ У. ГОМАНАЎ В. МАРКАВЕЦ У. СТАЛЬМАШОНАК Г. ВАШЧАНКА А. АНІКЕЙЧЫК Б. КРЭПАК

**Л. Шчамялёў:** Тым больш, што такія аб'яднанні — не навіна, вазьміце хоць бы кінематограф, яго творчыя аб'яднанні.

**А. Фінскі:** Я сказаў бы, што невялікія групавыя выстаўкі і могуць паказаць нашу штодзённую працу. Бо вялікія выстаўкі ў Палацы мастацтваў — гэта парад, «дэманстрацыя дасягненняў». Розніца вялікая, і яна вось у чым. На групавой ты можаш паказаць адразу дзесяць твораў, паглядзець на сябе і паказаць сябе вельмі сур'ёзна. Гэта — школа. А ў Палацы выставіш адзін твор, у лепшым выпадку — два.

**В. Маркавец:** Групавая выстаўка яшчэ дапамагала б высвятліць, хто ў нас працуе пастаянна, а хто — ад выстаўкі да выстаўкі.

**Т. Сакалова:** Лічу, што такія выстаўкі — эксперыментальныя, нечаканыя — рабілі і могуць рабіць члены секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выстаўкі незвычайныя, самабытныя, заўсёды прыцягваюць гледача. Гэта пацвердзіла мінулагодняя экспазіцыя «Гармонія і асяроддзе», нядаўняя выстаўка керамікі двух нашых мастакоў-аднадумцаў Міколы Байрачнага і Валянціна Прыешкіна. Неўзабаве адкрыецца ў Доме работнікаў мастацтва выстаўка мінігабелена... І тым больш крыўдна было пачуць нядаўна ад паважанага Міхаіла Андрэевіча Савіцкага: мастакам-прыкладнікам няма чаго выстаўляцца, трэба зачыніць для іх залы Палаца мастацтваў — хай ідуць на прадпрыемствы і займаюцца там вырабам тавараў народнага ўжытку. Ці не ў такім вось стаўленні і прычына, што ў Мінску няма базы для прыкладнікоў, што закрыта кафедра тэкстылю ў нашым тэатральна-мастацкім інстытуце?..

**Л. Шчамялёў:** Ва ўсім свеце людзі ходзяць у музеі, каб паглядзець творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва... Гэта ж, бадай, самы старажытны від мастацтва на зямлі!

**А. Фінскі:** Я хацеў бы дадаць яшчэ вось што. Цяпер ставіцца пытанне, як надаць паркам рэспублікі непаўторнае аблічча. Думаю, вялікую карысць тут прынеслі б менавіта групы аднадумцаў, канкрэтных людзей, аб'яднаных творчымі пазіцыямі, сумеснай ініцыятывай.

**Г. Лойка:** Мне здаецца, што на сённяшні дзень бяда нашага выяўленчага мастацтва ў тым, што яно ў асноўным сканцэнтравана ў Палацы. Нам сапраўды, я тут згодзен, вельмі патрэбны і невялікія выставачныя залы для групавых экспазіцый. Гэта праблема вялікая...

**У. Басалыга:** Заканчваецца рэканструкцыя Траецкага прадмесця. А ці ёсць там хоць адна выставачная зала?

**Г. Лойка:** На жаль, не.

**У. Басалыга:** Затое больш, чым дастаткова, запраектавана тут кафэ і бараў...

**Г. Лойка:** Вось гэтае пытанне і трэба ставіць перад гарадскімі ўладамі.

**Л. Асецкі:** А я хачу звярнуцца да вас, Георгій Валянцінавіч, як да прадстаўніка Міністэрства культуры рэспублікі. Трэба паклапаціцца пра выставачную залу ў Полацку. Сорамна, але факт: тут няма элементарных памяшканняў бытавога прызначэння, людзям няма дзе распрануцца. Няўжо мы не здольныя спраектаваць для выставачнай залы спецыяльны павільён, дзе можна было б саставіць і скрыні з палотнамі, якія цяпер загрувашчваюць вестыбюль сабора? Такое выдатнае выставачнае памяшканне не мае і стацыянарнага абсталявання: для выстаўкі «У краі блакітных азёраў» мы вымушаны былі везці нават рэйкі з Мінска.

**Б. Крэпак:** Без патрэбнага абсталявання наогул немагчыма «зрэжысіраваць» ніводную экспазіцыю. У ідэале яно павінна быць да кожнай выстаўкі індывідуальным. Мы ж гэтую праблему ніяк не рашаем, таму такое аднастайнае, прымітыўнае афармленне экспазіцый у Палацы мастацтваў.

**Г. Лойка:** Магу паведаміць, што мы ўжо выдзелілі сродкі ўсім абласным упраўленням культуры для выставачнага абсталявання, у тым ліку, немалыя грошы для полацкай галерэі.

**Г. Вашчанка:** Хацеў бы звярнуць увагу на той факт, што такі буйны абласны цэнтр, як Гомель, не мае ў музеі аддзела выяўленчага мастацтва, не кажучы ўжо пра карцінную галерэю. А між тым у гомельскім парку захаваўся выдатны комплекс палаца Паскевіча з саборам і ўсыпальніцай. Палац аддадзены дзецям пад розныя тэхнічныя гурткі. Калі падысці да гэтай справы з пазіцый дзяржаўных, дык для работы гурткоў можна было б знайсці месца ў іншым, сучасным, будынку. Комплекс жа, дзе і прыгожы ландшафт, і своеасаблівае архітэктурнае асяроддзе, было б мэтазгодна зрабіць буйным культурным цэнтрам. Гэта тым больш дарэчы, што ў Гомелі захавалася выдатная калекцыя ўнікальных твораў прыкладнога мастацтва, жывапісу і г. д. Ды і сам калектыў гомельскіх мастакоў перспектыўны, цікава працуе, і ў гэтым культурным комплексе творы гамяльчан маглі б заняць належнае месца... А ўзяць нашы мінскія музеі. Як тут распараджаюцца творамі мастацтва? Пакуль што яны проста ляжаць у запасніках мёртвым грузам.

**У. Басалыга:** Так, менавіта ў запасніках. Калі гаварыць пра Дзяржаўны мастацкі музей БССР, дык тут наогул назіраецца парадаксальная сітуацыя: зала на першым паверсе, дзе раней экспанаваліся творы беларускага савецкага мастацтва, ператворана ў звычайнае сховішча са стэлажамі...

**Л. Шчамялёў:** Гэта ж недаравальна! У гэтых залах, акрамя пастаяннай экспазіцыі, можна было б наладжваць і часовыя. Дзе, як ні ў музеі, госці сталіцы могуць пазнаёміцца з узорамі сучаснага нацыянальнага мастацтва беларусаў? А між тым ніхто не спытаў у дырэктара музея: што ж ты нарабіў?!

**У. Басалыга:** Ці толькі ў дырэктары справа? Ёсць і другія людзі, якія кіруюць культурай, а значыць павінны думаць і пра будаўніцтва музейнага сховішча. Пакуль жа аўтамашыны ў нас даглядаюць лепш, ва ўсякім разе будуюць для іх гаражы.

**Г. Вашчанка:** Праблема сховішча цягне за сабой яшчэ адну вострую праблему. І тут я не разумею пазіцыі Міністэрства культуры, якое, каб разгрузіць запаснікі, проста перадае нашы творы нават туды, дзе не арганізавана іх захоўванне. Так здарылася з творамі Івана Рэя. Рыхтуючыся да 50-годдзя, ён збіраў свае палотны для персанальнай выстаўкі і з гэтай мэтай паехаў у Крупкі. Там яму сказалі, што карціна... знаходзіцца ў гаражы. Яна і сапраўды была там. А побач карцінай мастака Шыбнёва быў накрыты грузавік. Калі Рэй звярнуўся да загадчыка клуба, той заявіў: «Я іх спісаў і магу рабіць з імі, што хачу»...

**Л. Шчамялёў:** Так загінула і мая работа ў Бялынічах...

**Л. Асецкі:** Вось чаму трэба дамагацца, каб у кожным абласным цэнтры былі свае карцінныя галерэі і абавязкова з раздзелам сучаснага мастацтва рэспублікі!

**А. Анікейчык:** Мы палохаем кіраўнікоў, калі гучна гаворым: дайце карцінную галерэю. Нас разумеюць так, быццам мы патрабуем нейкую вялізную будыніну з мармуровымі калонамі. А праблема ж можа вырашацца значна прасцей. Як, напрыклад, у Славеніі. Яна памерам з нашу Віцебскую вобласць, а мае 170 карцінных галерэй. Я спачатку не паверыў, што такое магчыма . Але пры знаёмстве аказалася, што некаторыя галерэі толькі ўдвая большыя, чым вось гэты наш пакой, дзе праходзіць «круглы стол». Вось і думаеш, чаму нам у рэспубліцы не стварыць такія невялікія эстэтычныя цэнтры?

**Л. Салавей:** Ці не вынікаюць усе нашы беды з той прычыны, што мастак сёння страціў свае пазіцыі барацьбіта за ідэалы? А значыць — і аўтарытэт. А ён жа павінен штодзённа даказваць, што можа быць у грамадстве дзейснай сілай. Пакуль жа,— мне гэта даводзілася назіраць і ў раёнах, і ў абласцях,— партыйныя і савецкія органы не ведаюць, як выкарыстоўваць плён працы мастака, як праводзіць у жыццё ўвасобленыя ў палотнах ідэалы праз выставачную дзейнасць.

**Л. Шчамялёў:** Спытайце, а ці часта ў Мінску сакратары райкомаў, старшыні выканкомаў бываюць на нашых выстаўках?

**Л. Салавей:** Калі да нас не ходзяць, дык мы павінны ісці ў народ.

**У. Басалыга:** Як вы, Ларыса Фёдараўна, гэта сабе ўяўляеце?

**Л. Салавей:** Ісці з выстаўкай...

**У. Басалыга:** Несці яе на сваіх плячах? Я, вядома, утрырую, але доля праўды тут ёсць...

**Л. Салавей:** Гаворка цяпер не пра арганізацыйны момант... Трэба змагацца за справу, якую ты робіш, каб твае творы знаходзілі дарогу да чалавека. Часам жа ўсе намаганні мастака зводзяцца да таго, каб прадаваць сваю работу. Далейшы лёс твораў яго не цікавіць, бо ён ведае, што яны пойдуць у запаснікі. Гэта ў лепшым выпадку. А што ў горшым — мы бачылі ў крупскім гаражы. Уявіце сабе на хвіліну, з якой аддачай будзе працаваць над дэталямі рабочы, калі б яму сказалі, што яны тут жа будуць выкінуты на сметнік або закапаны ў зямлю?

**Б. Крэпак:** Калі б мастак быў упэўнены, што яго твору наканавана доўга жыць сярод людзей, ён з большай адказнасцю ставіўся б да сваёй працы, да яе якасці.

**Г. Лойка:** Калі гаварыць аб якасці твора, аб яго прапагандзе, дык мы мяркуем вырашаць праблему і такім шляхам: на выстаўках прысуджаць прэміі па ўсіх жанрах. На з'ездзе нам трэба будзе пагаварыць пра тое, каб не толькі Саюз мастакоў і Міністэрства культуры адлічвалі сродкі на гэтую справу, але і прыцягваць да яе буйныя прадпрыемствы, калгасы, як гэта робяць у Прыбалтыцы.

**У. Стальмашонак:** Абсалютна згодны, што галоўны прапагандыст твора — яго якасць. Але патрэбны яшчэ і якасныя арганізацыйна - структурныя формы выставачнай прапаганды. Мы шмат тут гаварылі пра групавыя вернісажы, аб'яднанні мастакоў па інтарэсах, выстаўкі па жанрах і г. д. Але структурна такія выстаўкі-эксперыменты пакуль не ўяўляем. На Каўказе правільна гавораць: новае віно ў старыя бурдзюкі не наліваюць. Вось і нам трэба паглядзець, куды мы наша творчае «змесціва» будзем наліваць. Я хачу спаслацца на думку Віктара Маркаўца, якую ён выказаў нядаўна на секцыі: калі мы не знойдзем новую форму паказу калі не пабудуем усё жыццё вакол выстаўкі, не той традыцыйнай, вядома, а свежай, нечаканай, дык па-ранейшаму мастакоўскага шчасця кантактаў з людзьмі мы мець не будзем.

**А. Анікейчык:** Дык як ты ўяўляеш сабе гэтую новую структуру?

**У. Стальмашонак:** Дазволю сабе крыху пафантазіраваць. У Палацы мастацтваў дзейнічае выстаўка. Круглы год. Яна не тэматычная, не Іванова або Пятрова, а наша агульная, пастаянная. Змена экспазіцыі адбываецца ў ёй кожны месяц, напрыклад, першага чысла. Уяўляеце, кожны мастак штомесяц можа выстаўляць на ёй сваю новую работу, прычым тую, якую захоча паказаць! І глядач прывыкне да таго, што на пачатку месяца знойдзе ў экспазіцыі шмат нечаканага. Пры добрай арганізацыі за тыдзень да таго першага чысла можна не толькі памяняць экспазіцыю, але і зрабіць закупкі. А чаму і сапраўды не прысуджаць прэміі лепшым творам? Як гэта робіцца ў Балгарыі, напрыклад? Чырвонымі этыкеткамі адзначаюцца творы-прэтэндэнты на першую прэмію, дапусцім, іх будзе дзесяць па кожным відзе і жанры мастацтва. Сінімі — некалькі другіх, а зялёнымі — трэція. Я бачыў на сусветным біенале-5 у Балгарыі, як невялікі пейзаж атрымаў чырвоную этыкетку. А вялікія тэматычныя палотны вядомага мастака не атрымалі нават зялёнай. Галоўны крытэрый ацэнкі — толькі мастацкасць, толькі яна!.. Так трэба зрабіць і ў нашым Палацы. Тады ў ім закіпіць жыццё, тады ў ім будзе тое, пра што мы ўвесь час марым. Людзі будуць спрачацца будуць гаварыць пра жывапіс, пластыку, словам, пра мастацтва. Зрабіць такое нам ніхто не перашкаджае, трэба толькі захацець, трэба толькі адчуць сябе паўнапраўнымі гаспадарамі свайго дома.

**В. Маркавец:** Ідэя сапраўды цікавая. Так мы зможам сістэматычна выстаўляцца, атрымліваць аб'ектыўную ацэнку сваёй творчасці. І не па адной-дзвюх работах...

**У. Стальмашонак:** Дарэчы, можна было б падумаць і пра тое, каб на роўных з нашымі творамі на выстаўцы экспанаваліся творы, якія ідуць праз камбінат. Не сакрэт, што ўзровень іх вельмі нізкі. Можна пайсці і далей: прапанаваць калгасам, прадпрыемствам, якія пералічылі на заказ грошы, набываць творы мастацтва непасрэдна з выстаўкі, з таго, што экспануецца на ёй. Так мы скіруем мастакоў, якія працуюць на камбінаце, да творчасці. А службы камбіната будуць займацца сваёй непасрэднай справай — у прыватнасці, прапагандаваць і рэалізоўваць тое, што ёсць на асноўнай выстаўцы года.

**А. Анікейчык:** Яшчэ колькі слоў аб прапагандзе нашага мастацтва. Я хацеў бы звярнуцца да пісьменнікаў: не забывайцеся пра нас. Мы ж ставімся да вашай творчасці з павагай. Вунь колькі выдатных графічных лістоў, ілюстрацый, скульптур, жывапісных палотнаў зрабілі мастакі, прапагандуючы вас, літаратары, і вашы творы. Хацелася б, каб плён нашай мастакоўскай працы выклікаў такую ж зацікаўленасць, каб на старонках часопісаў і газет з'яўляліся водгукі паэтаў, празаікаў, публіцыстаў...

**У. Гоманаў:** У «ЛіМе», дарэчы, нядаўна была змешчана справаздача па пытаннях міграцыі жыхароў вёскі ў горад. Прысутнічалі там паважаныя літаратары, адказныя кіраўнікі. Гаварылі пра тое, у прыватнасці, як узняць культуру на сяле. Але ніхто, на жаль, не ўспомніў пра ролю выяўленчага мастацтва ў жыцці вёскі. А праблема мае ранг сацыяльнай.

**А. Анікейчык:** Заканчваючы нашу гаворку, я хацеў бы прывесці прыклад з культурнага жыцця Грузіі: там мастакі і пісьменнікі працуюць плячо ў плячо, ствараючы парк Надара Думбадзе, бо ўсе разам дбаюць пра культуру свайго народа. І гэта сімвалічна, бо культуру нельга дзяліць на часткі. Яна ствараецца нашымі агульнымі намаганнямі, агульным клопатам усіх творцаў за духоўны патэнцыял сацыялістычнага грамадства.

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтавала да друку Л. КРУШЫНСКАЯ.**

# «Вясна свяшчэнная»

**Пра гэты спектакль (музыка І. Стравінскага, лібрэта і харэаграфія В. Елізар'ева, сцэнаграфія Э. Гейдэбрэхта, дырыжор Г. Праватораў), пастаўлены ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР, разважае ў своеасаблівай рэцэнзіі-дыялогу доктар мастацтвазнаўства Ю. ЧУРКО**

— Перш чым пачаць гэтую гаворку, своеасаблівую рэцэнзію ў форме дыялога, трэба, відаць, высветліць зыходныя пазіцыі. Без канфлікту думак і ацэнак не ўзнікне спрэчкі, а значыць, як кажуць, не народзіцца і ісціна. Дык хто ж з нас «за», хто «супраць»?

**— Намякаеце на тое, у чым цяпер часта папракаюць крытыкаў? Ведаючы асабістыя ўзаемаадносіны іх з тымі, пра каго пішуць, можна загадзя «вылічваць» крытычную ацэнку: сябры — хваляць, ворагі — ганяць...**

— *Паколькі ў дадзеным* выпадку мы ўсё ж — адна асоба, будзем прадстаўляць тыя «за» і «супраць», якія ўзнікаюць у аднаго крытыка ў працэсе роздуму над спектаклем. Дык будзем лічыць, што гутарку вядуць не «ворагі» і «сябры» стваральнікаў спектакля, а два шчырыя аматары беларускага балета, зацікаўленыя ў яго далейшых поспехах. А *значыць*, і зацікаўленыя ў высвятленні сапраўднай каштоўнасці зробленага. Бо веданне рэальнасці, цвярозы аналіз заўсёды былі неабходныя для руху наперад.

**— «Вясна свяшчэнная» ў Мінску, па-мойму, яркі, відовішчны спектакль. І што немалаважна, у ім упершыню на беларускай сцэне інтэрпрэтуецца музыка І. Стравінскага. Вядома, якая складаная яна для балетнай трупы. Захавалася гісторыя, напрыклад, першай пастаноўкі гэтага твора і незадаволенасці кампазітара трактоўкай музыкі балетмайстрам В. Ніжынскім. Далёкая ад звыклых для балета форм, наватарская па выяўленчых сродках, яна і сёння захоўвае сваю незвычайную магутнасць, праўдзівасць і ўсю сваю складанасць. Не толькі для балетнай трупы, але і для аркестра. Тым больш прыемна, што танцоры і музыканты паказваюць высокі прафесіяналізм, артысты балета цудоўна арыентуюцца ў складанай паліртміцы партытуры. Паспрыяла гэтаму, вядома, вялікая музычнасць пастаноўшчыка спектакля В. Елізар'ева. Аркестр тэатра пад кіраўніцтвам Г. Праватарава гучыць ярка, тэмпераментна і цудоўна перадае як шалёную стыхію руху масы, так і таемнасць вясновага росту траў, узор лірычных дзявочых карагодаў.**



Сцэна са спектакля «Вясна свяшчэнная».

Фота Ул. КРУКА.

— Я ахвотна пагаджаюся з вамі наконт музычнасці інтэрпрэтацыі балетмайстрам складанага рытму, але ў мяне выклікае сумненне адпаведнасць **у цэлым** харэаграфічнай драматургіі — музычнай. Ці правамерна ўнясенне вострага канфлікту ў сцэнічнае дзеянне, калі такога няма ў партытуры? Самыя аўтарытэтныя даследчыкі музыкі І. Стравінскага сцвярджалі, што «Вясна...» пазбаўлена канфліктнага драматызму, які стымулюе актыўнае сцэнічнае дзеянне. Тут няма падзей, якія фарміруюць сюжэт, і пры бязмежным дынамічным нарастанні ў творы захоўваецца эмацыянальна-вобразнае пастаянства. «Здавалася б, — піша аўтар кнігі «Раннія балеты Стравінскага» І. Вяршыніна,— кантраст дзявочых і мужчынскіх вобразных сфер стварае аснову для канфліктнай драматургіі, але гэтага не адбываецца. Наадварот, кампазітар адчувае абедзве вобразныя сферы як кантрастныя формы ўвасаблення адзінага зместу». Гэтую ж думку падкрэслівае і Б. Асаф'еў: «Вясна свяшчэнная» — гэта «стыхійна-першабытны танец — усе як адзін». Пастаноўшчык жа спектакля не толькі адыходзіць ад гэтага эмацыянальна-вобразнага адзінства, але і будуе сюжэт на канфлікце не паміж жаночай і мужчынскай сферамі (падставу для такога канфлікту даваў бы існуючы ў музыцы кантраст паміж імі), а паміж асобай і калектывам, канфлікце, даведзеным да свайго вышэйшага пункту — гібелі героя.

**— А хіба ж харэограф, увасабляючы музыку ў *пластычныя* вобразы, не мае права ўносіць штосьці сваё? Я думаю, мы не можам патрабаваць ад яго, каб танец толькі падтрымліваў музыку. Вядома, што цяперашнія балетмайстры не толькі перакладаюць музыку на мову пластыкі, не толькі ідуць за ёй, *але і развіваюць, дапаўняюць*, дамысліваюць яе. Вобразны лад харэаграфіі сёння можа быць, калі можна так сказаць, не толькі паралельным музычнаму, але і контрапунктуючым і нават «вертыкальным». Дарэчы, Елізар'еў часта падае прыклады арыгінальнага, свежага прачытання музыкі, — у «Шчаўкунчыку», «Спартаку», «Карміне Буране», «Балеро». На мой погляд, гэта даволі правамерна, хаця часам выклікае пратэсты музыказнаўцаў. Правільна Елізар'еў пісаў у праграмцы «Вясны...», што трэба ствараць не падрадкоўнік музыкі, а яе харэаграфічны вобразны эквівалент. І потым — давайце сабе ўявім гэты спектакль бесканфліктным. Ці не было б гэта сумна?**

— Калі балетмайстар баіцца, што на яго спектаклі, створаным на абраную ім жа самім музыку, будуць сумаваць, ён павінен звярнуцца да іншай музыкі, больш «вясёлай». Спробы ж развесяліць, заінтрыгаваць гледача ўводам у харэаграфію таго, што не мае хоць нейкай апоры ў партытуры, сёння, на цяперашнім узроўні разумення ўзаемадзеяння ў балеце музыкі і харэаграфіі,— такія спробы, як правіла, не атрымліваюць поспеху. Вось толькі адзін прыклад. Некалькі гадоў назад на музыку «Балеро» М. Равеля, якая змяшчае ў сабе, як вядома, адну тэму, ставіліся спектаклі, сюжэты якіх неслі канфліктныя калізіі, фатальны любоўны трохкутнік ці сутыкненне супрацьборных сіл. Сёння ж балетмайстар, калі ён сапраўдны прафесіянал, на гэта не пойдзе. Той жа Елізар'еў знайшоў магчымасць, не парушаючы монатэматызму, зададзенага музыкай Равеля, стварыць на нашай сцэне надзвычай хвалюючы, маляўнічы, увогуле, як кажуць, высока ідэйна-мастацкі спектакль.

**— Але ж у «Балеро» на мінскай сцэне таксама прысутнічае востры канфлікт, а ён, як вы самі сказалі, адсутнічае ў музыцы...**

— Тут свая хітрасць у асаблівым, «драматургічным» сінтэзе музыкі, харэаграфіі і сцэнаграфіі, які ўяўляецца мне ў поўным сэнсе слова наватарскім. Пастаноўшчыкі скарысталі тое, што музыка «Балеро» ўспрымаецца слухачамі па-рознаму. Нават музыказнаўцы падзяліліся ў меркаваннях: адным чулася наступальная хада сіл дабра і святла, другім — разгорнутае нашэсце зла, кашмару. (Сам кампазітар не пакінуў дакладных указанняў пра змест свайго твора, яго, хутчэй за ўсё, цікавіла вырашэнне тэхналагічнай музычнай задачы.) У нашым тэатры трактоўку музыкі «Балеро» як сферы пазітыўнай узяла на сябе харэаграфія, як сферы негатыўнай сцэнаграфія. Канфлікт узнікае як бы паміж гэтымі дзвюма сферамі, створанымі сродкамі пластыкі і жывапісу. Думаю, што такое вырашэнне «Балеро», унікальнае па сваёй арыгінальнасці, не супярэчыць музыцы.

У «Вясне...» ж адступленне пастаноўшчыкаў ад музычнай драматургіі выклікала яшчэ адну неадпаведнасць, на мой погляд, дастаткова сур'ёзную. Усе, хто пісаў пра музыку «Вясны...», а сярод іх былі і прыхільнікі і праціўнікі, пагаджаліся на тым, што ў ёй перадусім адлюстроўваецца пачатковы, калі можна так сказаць, першабытна-родавы стан свядомасці і душы чалавека. Напрыклад, Б. Асаф'еў лічыў, што «Вясна...» — гэта ўвасабленне старажытнапаганскага культу зямлі, што ў музыцы жыве «чалавек, які толькі-толькі аддзяліўся ад прыроды, паўзліты з ёй і нават яшчэ не стварыў уласнага бога». Б. Ярустоўскі падкрэсліваў, як многа значыла для І. Стравінскага думка пра «сілу чалавечай прыроды, спрадвечных інстынктаў, непадуладных сілам духоўнага прагрэсу». Не прыняўшы музыку «Вясны...», М. Рымскі-Корсакаў пісаў пра яе як пра «пацугі на відушчасць паўзвярынай душы прачалавецтва і яго заалагічнай рэлігійнасці». М. Друскін меркаваў, што Стравінскі «імкнуўся перадаць рытуальнае пазаасабістае дзейства». Я так многа цытую для таго, каб паказаць, што **па ўсеагульным прызнанні** ў «Вясне свяшчэннай» малюецца карціна архаічнай, праславянскай, а то і прадаславянскай эпохі, што ў ёй адлюстроўваецца першасная калектыўная свядомасць.

**— Дарэчы, гэтую эпоху і малюе мастак Э. Гейдэбрэхт. На задніку дэкарацыі паказаны алень ці лось, свяшчэнны ахоўнік, культ якога існаваў у эпоху мезаліту, — татэм племені. Артысты апрануты ў касцюмы, якія нагадваюць проста кавалкі тканіны, у якую, па нашым уяўленні, захіналіся старажытныя людзі. Мастак не аздабляе адзенне нават элементарным арнаментам, лічачы, відаць, што яго яшчэ не прыдумалі людзі на тым узроўні развіцця, на якім паказаны яны ў музыцы. Мне спадабаўся і суровы паўночны каларыт афармлення, і аблічча аленя-лася (гэтую выяву нават няёмка назваць «мордай»), што ўзносіцца над зямлёй.**

— А мне падалося, што вобраз аленя не зусім дакладна *знойдзены* мастаком. Па-першае, незразумела, чаму і дзе з'яўляецца алень, — ці то ён узнікае ў свядомасці людзей, якія вераць у тое, што яны вядуць ад яго сваё паходжанне, ці то ён на самай справе з'яўляецца на небе, ці то гэта своеасаблівы «каментарый» мастака да дзеяння.

**— А чаму ж тады з'яўленне, скажам, вобраза «мадонны» на задніку ці чалавека, які ляціць, у сцэнаграфіі «Стварэння свету» не выклікае ў вас такіх пытанняў?**

— Сцэнограф «Стварэння свету» адразу дае зразумець, што яго дэкарацыі не пазначаюць пэўнае месца дзеяння балета, а з'яўляюцца своеасаблівым асэнсаваннем гэтага дзеяння. Помніце, першая ж сцэна балета — гэта як быццам наіўнае ўзнаўленне карцін біблейскага раю, і тут жа, падобныя на метал, вастраканечныя сілуэты ракет. Іранічнасць погляду чалавека XX стагоддзя, прытчавасць усяго апавядання адчуваецца гледачамі адразу ж. А ў «Вясне...» мастак паказвае рэальную абстаноўку, уводзіць нас у атмасферу змрочнай, халоднай прыроды, і з'яўленне аленя «на небе» падаецца малавытлумачальным. Акрамя таго, гэтая выява дастаткова натуралістычная і не нясе ў сабе іншай інфармацыі, акрамя той, што гэта — алень. Яна не ўключана ў драматургію: выкінь яе, і ў дзеянні асабліва нічога не зменіцца.

**— Але вернемся да драматургіі балета. Мы спыніліся на тым, што ў ёй адлюстроўваецца першасная калектыўная свядомасць.**

— Так, у музычнай драматургіі ўладарыць «ідэя неадасобленасці ўласнага жыцця ад жыцця масы», калі «ўлада роду стаіць паперадзе ўсяго» (Б. Асаф'еў). А харэограф, пачынаючы спектакль быццам таксама з паказу паўстыхійнага, паўрытуальнага руху масы, у наступных сцэнах раптам робіць скачок на шмат стагоддзяў наперад і паказвае, як адзін з юнакоў паўстае супраць улады роду і ў імя кахання кідаецца ў ахвярнае вогнішча, на якім згарэла яго каханая.

**— Вы лічыце, што ў часы, паказаныя ў спектаклі, людзі яшчэ не ўмелі кахаць, не ведалі індывідуальнай любові? Але ж нават у жывёльным свеце зафіксавана манагамія, усе ведаюць кранальныя гісторыі аб гібелі лебедзяў, якія страцілі пару, апавяданні пра прывязанасці паміж чалавекападобнымі.**

— Мы з вамі становімся тут *на шлях, ужо даўно пройдзены* навукай. Не трэба блытаць інстынкты са свядомымі ўчынкамі. Што ж датычыць любоўных адносін людзей на ранніх этапах развіцця грамадства, дык тут даволі пераканаўчую карціну малюе Ф. Энгельс у «Паходжанні сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы».

**— Ці ж можна так проста правяраць мастацтва з дапамогай навукі, «гармонію — алгебрай»? Мастак мае права адыходзіць ад гістарычнай дакладнасці, фантазіраваць, а харэограф, напэўна, асабліва. Балет жа досыць умоўны від мастацтва, і Т. Гацье нездарма гаварыў: для таго, каб балет быў хоць крыху рэальны, трэба, каб усё ў ім было нерэальнае.**

— Гацье меў рацыю ў тым, што балет не павінен капіраваць рэчаіснасць. У яго свая сістэма каардынат. Не будзем разумець словы гэтага ідэаліста і рамантыка літаральна. Не пагаджаемся ж мы з яго думкай, што лібрэта балета можна запісваць на манжэтах! Для нас гэта сур'ёзная літаратура...

**— І ўсё ж не разумею, чаму, скажам, у «Стварэнні свету» аўтары маюць права перасоўваць стагоддзі і эпохі, змешваць рэальнасць і фантазію (дзеянне яго *пачынаецца ў міфалагічныя* часы Адама і Евы, а канчаецца ў сучаснасці ледзь не атамнай катастрофай), а ў «Вясне...» — не?**

— Мастак, безумоўна, мае права сам прапаноўваць правілы гульні, у якія ён затым запрашае верыць гледачоў. Але ён павінен іх паслядоўна выконваць. У «Стварэнні...» усе аўтары, ад кампазітара да мастака, адразу заявілі аб выбары прытчападобнай формы, дзе сумяшчаюцца мінулае і цяперашняе, легенда і рэчаіснасць. А ў «Вясне...», наадварот, усе аўтары спачатку настройваюць нас на зусім іншую меру ўмоўнасцей, куды больш блізкую да рэальнасці. А потым раптам бяруць і мяняюць правілы. Гэта ўсё роўна, як у пачатку летапісу будзе напісана, што ў славян «браку не бываху, жены свои умыкаху», а ў канцы мы раптам даведаемся, што герой вянчаўся, пакончыў з сабой і ўзнёсся на неба.

**— Дарэчы, узнясенне герояў у фінале балета трэба, па-мойму, разумець як адыход з бездухоўнага, жорсткага свету, своеасаблівы прарыў у духоўнасць. Тут Елізар'еў працягвае блізкую яму тэму сцвярджэння чалавечнасці, гуманізму. Гэта, як ён піша ў праграмцы балета, пратэст супраць бессэнсоўнага ахвярапрынашэння, якому супрацьпастаўляецца ўсвядомленае самаахвяраванне ў імя кахання. Харэограф сцвярджае ідэю бессмяротнасці духоўнага ў чалавеку.**

— Бясспрэчна, балетмайстра натхняюць высакародныя намеры, але мастацкія сродкі, якія ён выбірае, адводзяць яго крыху ўбок. Узнясенне, як і вянчанне, звязана ў нашай свядомасці перш за ўсё з хрысціянствам і, хочам мы таго ці не, нясуць у сабе цэлы комплекс адпаведных асацыяцый. Хрысціянства таксама ж сцвярджала ідэю несмяротнасці. Але несмяротнасць разумеюць па-рознаму. Ды і скачок з эпохі старажытнага паганства (з яе культам жывёлы і панаваннем пазаўласнага) да высокай самаахвярнасці асобы занадта вялікі.

**— Думаю, мастак мае права выяўляць не толькі тыповыя з'явы, але і выключныя. Магчыма, балетмайстар хацеў паказаць першыя спробы пратэсту супраць крывавых ахвярапрынашэнняў, першыя праявы асобы і, так сказаць, індывідуальнага кахання. Паўтараю: нельга патрабаваць ад мастацтва дакладнай адпаведнасці гісторыі. Гэта ж не навука.**

— Тым не менш, у мастацтва і навукі адна крыніца — жыццё. І балет увесь час імкнуўся стаць як мага бліжэй да яго, як мага больш рэалістычным. Сам Елізар'еў зрабіў на беларускай сцэне для гэтага нямала. У рэалістычным жа мастацтве найважнейшы спосаб абагульнення — тыпізацыя. Мастак можа, вядома, не здраджваючы праўдзе, паказваць з'яву выключную. Але не неправдападобную. Для мяне ж учынак першабытнага юнака, які кідаецца ў агонь у знак любві і пратэсту,— з ліку неверагодных. Гэта проста не магло прыйсці ў галаву чалавеку, які жыве па законах роду. Гэта ўласцівасць значна больш развітай свядомасці, і такія сітуацыі фіксавалі ў еўрапейскім мастацтве куды пазней.

**— А вам не здаецца, што ўсе гэтыя меркаванні правамерныя толькі з тэарэтычнага пункту гледжання? Звычайны глядач імі цікавіцца мала. Для яго больш важна агульнае ўражанне ад спектакля, акцёрскія работы. А ў балеце заняты як таленавітыя маладыя акцёры, так і майстры: І. Душкевіч, Т. Шаметавец, А. Куркоў, У. Камкоў. Гледачу падабаецца «Вясна свяшчэнная». Сведчанне таго — аншлагі. Або глядач памыляецца?**

— Мне здаецца, усё, пра што мы з вамі спрачаліся на «тэарэтычным узроўні», непасрэдна датычыць практыкі, мастацкасці спектакля. А што да гледача... Дык ён заўсёды мае рацыю. Нават калі яго няма, як сказаў нехта. А ўжо тым больш, калі ён ёсць.

**— Я разумею ваш жарт. Тым не менш, пастаноўка «Вясны свяшчэннай» сапраўды выклікае цікавасць, і пра яе, напэўна, яшчэ будуць гаварыць і спрачацца. Вось і пасля нашай гаворкі яшчэ нехта зацікавіцца яе прадметам.**

— Прыйдзе на балет і стане гледачом... А калі яшчэ пра нашы высновы задумаюцца стваральнікі спектакля, то наша мэта будзе дасягнута.

Юлія ЧУРКО.

НАШ ДУХОЎНЫ СВЕТ: ВЫТОКІ і АБСЯГІ

# АБУМОЎЛЕНА НАМІ, ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС

Не прэтэндуючы на бясспрэчнасць сваіх высноў і развагі, хачу падзяліцца думкамі па тых праблемах, пра якія разважаў у артыкуле «Як скарб духоўны» В. Жыбуль («Ліім», 12 лістапада мінулага года). Размаўляючы з чытачамі артыкула — яго актыўнымі і пасіўнымі прыхільнікамі, чуў ад іх, што, маўляў, беларускамоўная літаратура (а літаратура, як вядома, — зараз адна з найпершых, найгалоўных форм існавання нашай мовы) за першачарговую мэту можа мець не самыя высокія арыенціры — напрыклад, выхоўваць духоўнасць, а арыенціры трохі «заніжаныя» — выхоўваць пачуццё нацыянальнай годнасці, нацыянальную свядомасць, любоў да роднай мовы, гісторыі і ўжо выхаваўшы гэта, можна ісці і далей. Кажуць: няма чаго клапаціцца пра дах, калі падмурак нетрывалы. Зрэшты, магчыма, яны і маюць рацыю. Але я з імі, з такой думкай, пагадзіцца не магу, бо лічу, што дапушчальная заніжанасць мэт, якія ставяцца перад літаратурай, вядзе да заніжанасці яе каштоўнасці, а значыць і да заніжанасці інтарэсу да самой літаратуры. Пэўная заніжанасць патрабаванняў апраўданая, напрыклад, для навучэнцаў, якія не зусім здатныя вучыцца, для чытачоў, якія не могуць як след разумець і разбірацца, але ж мы здатныя, мы можам — і вучыцца, і разумець. І мы знаходзім крыніцы ведаў, якія задавальняюць нашыя незаніжаныя запатрабаванні, нашыя несапсаваныя густы. Звычайна — у рускай літаратуры, а дакладней, у кнігах на рускай мове. Справа не ў мове, а найперш у тым, што ствараецца ці прапануецца на гэтай мове.

Пры цяперашняй плыні інфармацыі, у тым ліку і ў выглядзе мастацкай літаратуры, нельга ўратаваць нацыянальную літаратуру (дакладней — літаратуру на нацыянальнай мове) ад забыцця, калі яна будзе толькі жаласліва абараняцца, «скардзіцца» на мацнейшых. Мацнейшы таму і перамагае, што ён мацнейшы. Хочаш быць сярод пераможцаў — мусіш стаць мацнейшым. Праўда, ёсць і іншы шлях, які прапануюць мудрыя жартаўнікі: палічы тое, што маеш, тым, што хочаш мець! Вось і ўся праблема, і ўсё вырашэнне; як палічыш — так і будзе!

Літаратар павінен заслужыць, зарабіць увагу да сябе, да сваёй творчасці — прадукцыі, якаснай ва ўсіх адносінах працай. Давайце паглядзім, як у нас абстаіць справа з гэтым — з належнай якаснасцю. Ці многа з'явілася ў нас беларускамоўных літаратараў — за ўсю нашу немалую гісторыю, — чые творы мы можам паставіць упоравень з творамі сусветнавядомых аўтарытэтаў мастацкага слова, як, напрыклад, франкамоўны Бальзак, англамоўны У. Фолкнер, нямецкамоўны Г. Гесэ, рускамоўныя М. Шолахаў ці М. Булгакаў?.. Якое ж наша першае рэагаванне на гэтае пытанне? Мы пачынаем адразу шукаць апраўданні сваёй беднасці!

І як тут не пашкадаваць аб тым, што літаратурная прадукцыя не пападае ў разрад той, якая падлягае дзяржпрыёмцы. Мажліва, дзяржпрыёмка ў дадзеным выпадку вельмі б дапамагла нам. Наколькі якасна літаратары твораць, настолькі іхнія творы прыцягальныя, цікавыя для чытача. Але ці многа з'яўляецца ў нас твораў, якія маглі б наталіць маю прагу чытання? На жаль, вельмі мала. Часцей за ўсё трапляюцца творы, якія хоць і на цікавую, скажам, на гістарычную тэму, але пры гэтым застаюцца толькі творамі значнай тэмы, творамі, якія не ўзняліся над «вясковай» ці «ваеннай» літаратурай да Літаратуры.

Бянтэжыць мяне і выснова, што панацэяй ад хваробы будзе сваё ўласнае «гюгоўства» і «друонства». Мяркую, выснова гэтая не з мудрых. Чаму так? Таму што, па-мойму, карані — нацыянальная мова, гісторыя, культура — яшчэ не мэта, а толькі шлях да яе. Шлях, які вядзе да вяршыні піраміды, дзе чалавек максімальна вызвалены ад догмаў, умоўнасцей, запраграмаванняў, атаясамліванняў, а галоўнае — ад заўзятай сабедбайнасці.

Між іншым, пра пачуцці, у тым ліку і пра нацыянальныя, на абуджэнне якіх мы часам ускладваем вялікія надзеі. Пачуцці ж — не самая высокая сфера, не сёмае неба. Вышэй за іх думкі, ідэі, а яшчэ вышэй — дух, духоўнасць. І чалавек такая ўжо няўрымслівая істота, што, як ты яго ні стрымлівай у рамках, межах, вопратках пачуццяў, ён усё роўна будзе імкнуцца ўгару — да думак, ідэй, а праз іх — да духоўнасці...

Значыцца, калі мы хочам, каб нас добра чыталі, то мусім і задавальняць, паўтараю, самыя высокія запатрабаванні пакупнікоў нашай прадукцыі — чытачоў. Мусім пісаць творы, якія вызначае высокая духоўнасць, высокія ідэйна-мастацкія якасці. Бо такія творы пішуцца на іншых мовах, бо такія творы друкуюцца на зразумелых нашаму чытачу мовах. А не пісаць іх «нянашым», як вы разумееце, забараніць мы не можам. Хіба што загадаць «нашым» не чытаць?! Вопыт рабіць недарэчныя забароны ў нас, на жаль, ёсць, прытым багаты.

І яшчэ адзін момант змагання за выжыванне літаратуры на беларускай мове. Гэта — неабходнасць павялічыць колькасць перакладаў з замежных моў. Толькі скажу адразу, навошта ж перакладаць, адбіраючы дэфіцытную паперу, з рускай мовы, калі па-руску і так кожны з нас прачытае? Хіба што — каб даць зарабіць талмачу? Трэба, мне здаецца, перакладаць толькі самае маладаступнае і разам з тым самае цікавае, актуальнае, вартае. Але і ў гэтым выпадку мы будзем мець толькі плёнік, бо плён, сапраўдны, багаты, магчымы толькі тады, калі скосім сабою ж пасеянае. На чужым далёка не паедзеш. Чужым цягніком да свае мэты не дабярэшся! А раз спазніліся на свой цягнік, то ці хутчэй даганяць яго — ён чакаць не будзе, ці палічыць чужы цягнік за свой і ехаць да ягонае мэты. Бо трэцяга — патрабаваць вярнуць свой цягнік назад, патрабаваць павярнуць кола часу назад — тут, як той казаў, не дадзена!

Трэба даганяць. Так мы лічым. І лічым, вядома ж, правільна. А хтосьці лічыць інакш — што не трэба даганяць. Хіба ж ён не мае права на ўласнае меркаванне? Трэба лічыцца і з іншадумцамі, паважаць іх, калі хочам, каб яны паважалі нас.

Словам: якія мы — такое і ў нас. Хочам лепшага — мусім стаць лепшымі. Усё абумоўлена намі. Усё залежыць ад нас. Ад нашай, не ў апошнюю чаргу, мудрасці і адказнасці.

**Мікола ШЭЛЯГОВІЧ.**

НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ

# КАЛІ ЛАСКА, ПРАСЦЕЙ

**БТ: разам ля экрана**

Сёння гэтая перадача прэтэндуе на неафіцыйнае званне найбольш папулярнай перадачы рэспубліканскага тэлебачання. Сваёй арыгінальнасцю. Актуальнасцю. Незвычайнасцю... І, дарэчы, прэтэндуе не без падстаў. Калі параўноўваць з тым, што было ў маладзёжным вяшчанні БТ раней, «Маладзёжны тэлевізійны цэнтр» (а гаворка ідзе менавіта пра гэтую перадачу) — цудоўная знаходка. Удача.

МТЦ нарадзіўся ўлетку мінулага года і адразу ж «перабег дарогу» іншаму маладзёжнаму цэнтру. Стацыянарнаму і не тэлевізійнаму. Таму, які стала размясціўся ў Палацы культуры чыгуначнікаў імя Ільіча і «вышэйшым дасягненнем» якога зрабіліся навагоднія балі-карнавалы... Іх цяпер нават блытаюць. Ва ўсякім разе не размяжоўваюць. Магчыма, гэта і няблага, абодва ж цэнтры дзеля адной мэты працуюць. Але такім чынам, думаецца, прыніжаецца праца стваральнікаў МТЦ, якія, разпораз выходзячы ў эфір, аказаліся больш вынаходлівымі і апантанымі, чым іх калегі з Палаца чыгуначнікаў.

Неўзабаве МТЦ споўніцца год. Для тэлеперадачы «ўзрост» немалы. Ужо знік прысмак навізны. Мінуў час, калі ўсё ўспрымалася як эксперымент. Заваяваны «свой» глядач. Гэта добра. Разам з тым, з'яўляюцца новыя кропкі адліку, напрошваюцца іншыя параўнанні. Малады глядач, можа, і не помніць, што было «да МТЦ», а вось за аналагічнымі праграмамі Цэнтральнага тэлебачання сочыць пільна...

Што непакоіць — ужо сёння? Шмат паўтораў. Мала новага. Зразумела, што зрабіць «двухсерыйны» выпуск МТЦ раз у два месяцы (ці ў тры, як раней) значна лягчэй, чым ствараць штомесячную перадачу на гадзіну-паўтары. Да таго ж, так, мабыць, лягчэй «заблытаць» гледача. Нярэдка губляецца пэўнасць: пра што ўсё-такі ідзе гаворка — пра «хэві-мэтал», пра змены ў праекце Статута ВЛКСМ ці аб прыхільніках «брэйк-дансу»... Усё гэта пачынае нагадваць вінегрэт. Усяго тут шмат — і ўдзельнікаў, і тэм, і клубаў, і вядучых. Глядзіш-глядзіш перадачу, чакаеш вырашэння адной праблемы, раптам пераключаешся на праблему іншую, чакаеш выйсця з яе, раптам зноў пераключаешся...

Напэўна, лепш гаварыць менш, ды па справе. Не ўсё добра, што доўга. Уражанне такое, нібыта стваральнікі перадачы доўгім часам МТЦ імкнуцца кампенсаваць вялікія перапынкі паміж выхадамі ў эфір. Кампенсацыя не самая ўдалая.

Не хацелася б быць катэгарычнай. Тым больш, у ацэнцы ўвогуле цікавай і жывой справы. Аднак, на мой погляд, «Маладзёжны тэлевізійны цэнтр» толькі выйграе, калі ўдасца пазбегнуць тэматычнага нагрувашчання, інфармацыйных дажджоў і слоўных лабірынтаў. Зрабіць бы ўсё — прасцей. Хоць, магчыма, гэта самае складанае...

**А. САЗАНОВІЧ,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## РАСКАЗВАЕ ПІСЬМЕННІК-ГІСТОРЫК

**Дэканат гісторыка - філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, праўленне абласнога таварыства аматараў кнігі, народны універсітэт ведаў аб помніках гісторыі і культуры правялі навукова - практычную канферэнцыю па творах вядомага даследчыка гісторыі роднай літаратуры і культуры, доктара філалагічных навук, пісьменніка А. Мальдзіса.**

**На канферэнцыі ішла зацікаўленая гаворка аб кнігах «На скрыжаванні славянскіх традыцый», «Падарожжа ў XIV стагоддзе», «Таямніцы старажытных сховішчаў», «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры», «Восень пасярод вясны».**

**Аб навукова - даследчым характары твораў А. Мальдзіса, іх ролі ў выхаванні патрыятызму падрастаючага пакалення гаварылі асістэнт кафедры гісторыі СССР і БССР В. Сычоў, загадчык кафедры беларускай літаратуры І. Штэйнер, асістэнт кафедры В. Шынкарэнка, студэнт М. Шуканаў і іншыя.**

**А. Мальдзіс адказаў на шматлікія пытанні.**

**П. ЛУКІН.**

## «ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» № 1

**Большую частку нумара займаюць матэрыялы, якія асвятляюць работу V з'езда рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

**Да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка — публікацыі І. Скварцова «Яго шлях пачынаўся ў рэвалюцыі» (пра нашага земляка М. Вішнявецкага), В. Гладышава «У гады вайны і інтэрвенцыі» (аб харчовым забеспячэнні рабочых), М. Клімеца «На вуліцы Куйбышава ў Брэсце» (пра явачную кватэру бальшавікоў Беларусі і Літвы).**

**У раздзеле «З летапісу народнай славы» змешчаны нататкі Г. Будая пра У. Амельянюка — «Мужны журналіст-падпольшчык», артыкул М. Шумейкі да 100-годдзя з дня нараджэння Г. Гая — «Камандзір Жалезнай дывізіі». Г. Крылоў расказвае пра помнік-манумент савецкім воінам, што вызвалялі Віцебшчыну ў гады Вялікай Айчыннай вайны — «Мемарыял аднапалчанам».**

ПАДЗЕІ І ДАТЫ

# РЭФАРМАТАР ПОЛЬСКАЙ СЦЭНЫ

*14 сакавіка грамадскасць Польшчы ўрачыста адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння Ляона ШЫЛЕРА, аднаго з выдатнейшых дзеячаў тэатральнага мастацтва. Гэтая падзея ўключана таксама і ў каляндар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ЮНЕСКО).*

**У гісторыю польскай культуры Ляон Шылер увайшоў як рэфарматар тэатра, стваральнік маштабных, манументальных і рамантычных спектакляў. У аднолькавай ступені ён быў тэарэтыкам і практыкам, у сваёй творчасці спавядаў ідэі так званага «жывога тэатра».**

**Нарадзіўся Ляон Шылер у Кракаве, выхоўваўся ў інтэлектуальнай атмасферы бацькоўскага дому і ў артыстычным кракаўскім асяроддзі. Атрымаў усебаковую адукацыю, з маленства выявіў схільнасці да тэатра і музыкі.**

**Колькі перадваенных гадоў Ляон Шылер жыў за мяжой, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з выдатным англійскім рэжысёрам Г. Крэгам. Гэтая дружба значна паўплывала на будучую дзейнасць Л. Шылера, яго творчасць. У той жа час Шылер актыўна ўдзельнічаў у тэатральным таварыстве «Рэдута», якое заснаваў яшчэ адзін выдатны дзеяч польскай культуры Ю. Астэрва.**

**Лёс не песціў Ляона Шылера. На ягоную долю выпалі доўгія дні і месяцы пакут у канцэнтрацыйных лагерах Асвенціме і Лінгу... Але нягоды не зламалі творцу. Вярнуўшыся на вызваленую радзіму, ён працягваў сваю дзейнасць на карысць польскага тэатральнага мастацтва.**

**Спачатку Л. Шылер працаваў у Лодзі, дзе на сцэне Дзяржаўнага тэатра Войска Польскага ажыццявіў шэраг пастановак, сярод якіх «Кракаўцы і горцы» В. Багуслаўскага, «Бура» У. Шэкспіра, «На дне» М. Горкага. Адначасова шмат намаганняў аддаваў ён выхаванню маладой творчай змены, узначальваючы тэатральную школу.**

**У 1949 годзе Л. Шылер пераязджае ў Варшаву і пачынае кіраваць «Тэатрам Польскім». Першы свой варшаўскі тэатральны сезон рэжысёр адкрыў ужо вядомым з Лодзі спектаклем «На дне». Новы перыяд творчасці мастака быў надзвычай плённы—ён ажыццяўляе пастаноўкі «Бронепоезда 14-69» У. Іванава, «Сулкоўскага» С. Жаромскага, на сцэне «Оперы Варшаўскай» рэалізуе свае музычныя задумы, рэдагуе тэатральны часопіс, узначальвае Саюз польскіх артыстаў тэатра і кіно...**

**Ляон Шылер заўчасна памёр у 1954 годзе. Дзейнасць выдатнага мастака перапынілася ў пару вышэйшага росквіту. Пасля сябе ён пакінуў глыбокія традыцыі тэатра, неабыякавага да рэчаіснасці, якія шануюцца і ў сучасным польскім мастацтве сцэны.**

**У пасляваенны перыяд, калі ў Польшчы адбываліся рэвалюцыйныя змены ва ўсіх сферах жыцця, рэфарматарская дзейнасць Ляона Шылера ў тэатры спрыяла велічным пераўтварэнням.**

**Казімеж ПАСКУДЗКІ,**
**консул па пытаннях культуры Генеральнага консульства ПНР у Мінску.**

Дзмітро ПАЎЛЫЧКА

# БЕЛЫЯ САНЕТЫ

## *Сцяг*

Жывое сэрца—прыстань бліскавіц.
Таму не трэба скардзіцца ніколі,
Што нехта ўпаў, расцяты напалам,
Або аслеп ці пасівеў заўчасна.

Калі баішся—выраж, выкінь прэч
Сваё нячулае да ўдараў сэрца,
А ў грудзі ўпхні сабе замест яго
Караўчыну, якой гаршкі вымаюць.

Але зрабіўшы так, не выбягай
На гул грымот, не прытварайся смелым,
Калі анучу носіш за рабром.

Уся кроў твая яе не зробіць сцягам,
А кропля з сэрца, што было жывым,
Хусцініну ўзнясе па-над вякамі.

## *Асвенцім*

З Асвенціма навек мне не вярнуцца,
Хоць дабравольна я сюды прыйшоў.
Тут чаравічкі дочачак маіх
Гавораць вырванымі языкамі.

Тут акуляры бацькавы на грудзе
Пабітых шкельцаў, зломаных апраў
Па жылачцы валовай я пазнаў,
Якой звязаў ён іх на пераноссі.

Тут маміну пазнаў я сівізну
У стозе кос жаночых—па сцяблінцы
Сухога променя з пары жніва.

Метафар не шукайце ў гэтым вершы,
Калі ў вас ёсць або былі бацькі,
Калі хоць раз дзяцей вы абувалі!

## *Сутнасць*

Тры дошкі знойдуцца мне на труну
Так, як знайшліся калісь на калыску,
Але калыска засталася людзям,
А дамавіна будзе толькі мне.

І словы знойдуцца на смутак мой
Так, як знайшліся для вясёлай песні.
Ды ці прымаюць гэту песню людзі?
Ды ці памрэ са мной мая туга?

Бо гэта надта цяжка—скласці песню,
Што, як калыска, з роду ў род ідзе,
Ад маміных вачэй да зор гайдае.

Бо надта ж цяжка—плакаць на самоце
І зберагчы ў душы сваю журботу
Такою ж непрытворнаю, як смерць.

## *Прагавітасць*

Хоць і ўсляпую яблык есць чарвяк,
Ды не шукае да святла ён выйсця.
Ён сам сабе дарогу прагрызае,
Скрозь ежу і да ежы паўзучы.

Як толькі засвятлее перад ім,
Бы неба золкам, тонкая лушпіна,—
У змрок салодкі залатога плоду
Ён хуценька вяртаецца назад.

Ён перазвон зярнят, што б'юць на сполах,
Паволі глушыць, абсмактаўшы іх,
Бо цішу любіць яшчэ больш, чым цемру.

Ён губіць сэрцавіну ўсю датла,
Каб плод салодкі, што яму дастаўся,
Не адрадзіўся ў дрэве гаманкім.

## *Жаль*

Паслала маці па грыбы хлапчыну,
І заблудзіўся ён у гушчары.
Яго кусты здавілі, за крыссё
Хапаў ажэўнік, нібы злы сабака...

Пачаў крычаць было, калі сцямнела,
Спужаўся голасу свайго і змоўк.
У сумны твар яго з усіх бакоў
Вачмі мядзведзіцы глядзела цемра.

Збудзіўся жаль у маладой душы
Па мацеры, па сонцу, па дзяцінству,
Ды не было паскардзіцца каму.

Ён не памёр, але яго няма ўжо,
Няма і тога лесу на зямлі,—
Адно ў мяне у сэрцы жаль застаўся.

## *Голас*

Аблудны верш у залатой гартані
Свайго тварца гучыць як праўды гук,
Матыў пужлівы—смеласцю звініць,
Бяссілле—грае громам помсты й кары.

---

Курт ВАНЕГУТ

# МЫ З БРАТАМ

**Пралог з рамана «Пошлы фарс, або Далоў, адзінота!»**

У ГЭТАЙ кнізе я бліжэй за ўсё падыду да таго, што прынята называць аўтабіяграфіяй. Я назваў яе «Фарс», таму што яна складаецца з асобных момантаў — сітуацый, гратэскных і ў той жа час па-свойму паэтычных. Штосьці накшталт старэнькіх кінафарсаў, асабліва тых, якія знялі Лорэл і Хардзі.

Яна пра тое, якім я ўспрымаю жыццё. У гэтай кнізе вам сустрэнуцца бясконцыя тэсты, якія пацвярджаюць абмежаванасць майго інтэлекту і кемнасці. Тэстам гэтым няма канца.

Галоўны жарт з Лорэлам і Хардзі, на мой погляд, заключаецца ў тым, што яны выходзілі пераможцамі з любога тэсту.

Ім заўсёды ўдавалася заключыць сумленную здзелку з лёсам. Менавіта гэта рабіла іх крыклівa захапляльнымі і смешнымі.

□

У іх фільмах было вельмі мала кахання. Часам была сітуацыйная паэзія шлюбаў, што само па сабе штосьці іншае. Яшчэ адзін тэст з камічнымі вырашэннямі, пры ўмове, што ніхто ад гэтага не пацярпеў. Усё адбывалася па добрай волі.

Каханне як такое ніколі не было прадметам дыскусіі. Маё дзяцінства часоў Вялікай Дэпрэсіі прайшло пад сцягам Лорэла і Хардзі. Яны атруцілі і развілі мой розум. Таму для мяне даволі натуральна капацца ў жыцці, не кранаючы кахання.

Яно не заслугоўвае маёй увагі. Што ж тады яе заслугоўвае? Сумленныя здзелкі з лёсам.

□

У мяне ёсць сякі-такі вопыт абыходжання з так званым каханнем. Правільней сказаць, я спадзяюся, што ў мяне ёсць такі вопыт. Уявім. Хоць выпадкі славутага кахання, якія найбольш мне запомніліся і спадабаліся, можна аднесці да разраду элементарнай прыстойнасці.

Нейкі непрацяглы час, а можа, наадварот, занадта працяглы час, я да некага добра ставіўся. Чалавек плаціў мне ўзаемнасцю. Пры чым тут каханне?

Таксама я не бачу розніцы паміж любоўю да людзей і любоўю да сабак.

Дзіцем я гадзінамі, стаіўшы дых, назіраў за комікамі экрана і слухаў комікаў па радыё. Калі мая ўвага не была занята комікамі, то ёю завалодвалі сабакі. Нашы сабакі былі шчодралюбыя вышэй за ўсялякую крытыку, і я валяўся з імі ў абдымку на тоўстых дыванах.

Я і цяпер гэтым займаюся. Сабакі пачынаюць стамляцца, бянтэжыцца і губляцца значна раней за мяне. Я мог бы прадаўжаць вечна. Вось як.

□

Аднаго разу адзін з маіх прыёмных сыноў у дзень свайго нараджэння, яму тады споўніўся 21 год, сказаў мне:

— Ведаеш, ты ніводнага разу ў жыцці не абняў мяне.

Тады я яго абняў. Ён таксама абняў мяне. Атрымалася вельмі прыемна. Падобнае пачуццё я ўжо аднойчы перажыў, калі валяўся на дыване ў абдымках з дацкім догам, які ў нас тады жыў.

□

Любоў ёсць там, дзе вы жадаеце, каб яна была. Па-мойму, бязглузда хадзіць у пошуках любві. Ды і сама гэтая любоў часцяком бывае найгнюснай штукай.

Вось калі б людзі, якія, згодна грамадскай думцы, горача кахаюць адно аднаго, у моманты спрэчак маглі сказаць:

— Хопіць любові, звернемся да элементарнай прыстойнасці.

□

Што датычыць элементарнай прыстойнасці, то самы вялікі вопыт у гэтай галіне я атрымаў ад свайго старэйшага і адзінага брата Бернарда. Бернард — вучоны - метэаролаг. Працуе ў Дзяржаўным Нью-Йоркскім універсітэце ў Олбані. Удавец, самастойна, без чыёй-небудзь дапамогі выхоўвае двух малалетніх сыноў. І выхоўвае паспяхова, таму што мае багаты вопыт: трох сыноў ён ужо выгадаваў.

Ад прыроды нам з братам дасталіся галовы з абсалютна рознымі начынкамі. Бернард нізавошта не стаў бы пісьменнікам. Я ні за якія мядовікі не стаў бы вучоным. Справа ў тым, што і я, і брат зарабляем на жыццё галавой. І калі ўжо гэтыя галовы нашпігаваны па-рознаму, мы прывыклі думаць пра іх, як пра насадкі, што функцыяніруюць незалежна, вышэй свядомасці і нутра.

□

За ўсё жыццё мы абнялі адзін аднаго не больш чым тры, ад сілы чатыры разы. Аднолькава няўклюдна. Але мы ніводнага разу не абняліся ў хвіліны журбы.

Нашы галовы з іх рознымі начынкамі рэагуюць на адны і тыя ж жарты, асабліва на жарты ў духу Марка Твэна, Лорэла і Хардзі. Нашпігаваныя па-рознаму, яны аднолькава бесталковыя.

Вось анекдот з жыцця брата, героем якога з невялікімі варыяцыямі мог бы быць і я:

На той час Бернард працаваў у даследчых лабараторыях фірмы Джэнерал Электрык у Нью-Йорку. Ён вынайшаў, што ёдыд серабра валодае здольнасцю вылучаць асадкі ў выглядзе дажджу альбо снегу з пэўнага роду воблакаў. У яго ў лабараторыі панаваў дзівосны беспарадак. Трапіў бы туды недасведчаны, ён тут жа мог бы скончыць свой жыццёвы шлях. Да яго паслуг былі б тысячы спосабаў, у залежнасці ад таго, дзе раней яму пашчасціць спатыкнуцца.

Афіцэр службы бяспекі, які служыў у кампаніі, проста аслупянеў, калі яго пагляду адкрыліся непраходныя джунглі, якія кішаць лавушкамі, пасткамі, узрыўнымі мінамі. Ён накрычаў на брата.

Брат адказаў слова ў слова наступнае:

— Вам здаецца, што ў лабараторыі беспарадак? Паспрабавалі б вы зазірнуць, што творыцца тут,—пры гэтым ён паляпаў сябе па лобе кончыкамі пальцаў.

І гэтак далей.

□

Аднойчы я паскардзіўся брату, што варта мне заняцца якім-небудзь рамонтам, як адразу ж, проста з-пад рук, невядома куды знікаюць усе інструменты. Работу, вядома, закончыць не ўдаецца.

— Шчаслівчык, — адказаў брат,—я губляю тое, над чым працую.

Мы дружна пасмяяліся.

□

Нам дасталіся ад прыроды галовы менавіта з такімі начынкамі. Ну і што, што бесталковыя? І мы з Бернардам законна лічым сябе членамі штучна выведзеных сем'яў, раскіданых па ўсім белым свеце.

Ён—брат усіх вучоных. Я—брат усіх пісьменнікаў. Міла і зручна. Вельмі нават прыемна. Чыстай вады шанец, бо ўсё жывое патрабуе гранічна вялікай колькасці родзічаў, якія служаць патэнцыяльнымі донарамі або рэцэпіентамі калі ўжо не любові, то, у горшым выпадку, элементарнай прыстойнасці.

□

Некалі, калі мы яшчэ былі дзецьмі і жылі ў Індыянапалісе, штат Індыяна, нам здавалася, што ў нас заўсёды будзе шмат родзічаў. Нічога дзіўнага: і нашы бацькі, і бацькі нашых бацькоў выраслі, акружаныя натоўпамі дваюрадных, траюрадных і іншаюрадных братоў, сясцёр, дзядзькоў і цётак. Да таго ж усе гэтыя родзічы былі добра выхаваныя, інтэлігентныя, усе мелі поспех. Усе яны гаварылі па-нямецку і па-англійску з нязменнай годнасцю.

Між іншым, да рэлігіі ўсе яны ставіліся даволі скептычна.

□

У юнацкія гады яны насіліся ў пошуках прыгод па ўсім свеце. У жыцці яны прызнавалі адны забавы. Але надыходзіў час, і яны паслухмяна вярталіся на наседжаныя мясціны ў Індыянаполіс. Гэта быў усемагутны кліч продкаў. Ды і навошта было рабіць іначай? У Індыянаполісе іх пачэквала з нецярпеннем шматлікая радня. Акрамя радні, для іх было падрыхтавана і сёе-тое больш істотнае: неблагі занятак, утульны дом, адданыя слугі, растучыя горы фамільнага фарфору, крышталю, сталовага серабра, бездакорныя рэпутацыі, гэтак важныя для бізнесу, вілы на беразе возера Максінкакі. Між іншым, на ўсходнім беразе гэтага возера быў некалькі цэлы фамільны гарадок адпачынку.

□

Але, уявіце сабе, глыбокаму задавальненню, якое адчувае кожны член сям'і ад прыналежнасці да яе, быў нанесены сакрушальны ўдар. На мой погляд, прычынай была нянавісць да ўсяго нямецкага, якая раптоўна ахапіла Амерыку, што, у сваю чаргу, з'явілася вынікам уступлення краіны ў Першую Сусветную вайну. Здарылася гэта за пяць гадоў да майго нараджэння.

Дзеці нашай сям'і перасталі вывучаць нямецкую мову. Ніхто болей не заахвочваў іх цікавасці да нямецкай музыкі, літаратуры, мастацтва, навукі.

Мы выхоўваліся ў поўным няведанні ўсяго нямецкага. Германія была для нас такой жа загадкай, як, скажам, Парагвай. Нас абакралі. Нас пазбавілі Еўропы. Усе нашы мізэрныя веды ў гэтай галіне з лёгкасцю ўкладваліся ў рамкі школьнай праграмы.

Страта ішла за стратай. Спачатку мы пазбавілі сябе тысячагоддзяў, за тысячагоддзямі ішлі сотні тысяч амерыканскіх долараў, за імі—летнія дамы і ўсё такое іншае.

Зусім зразумела, што ў гэтым працэсе была цалкам страчана прыцягальная сіла сям'і. Міналі гады. Закончылася Першая Сусветная вайна, мінулі часы Вялікай Дэпрэсіі. Пачалася Другая Сусветная вайна. І вось ужо для мяне, брата і сястры не складае вялікай цяжкасці вылецець з роднага Індыянаполіса. І нікому з тых, хто яшчэ заставаўся дома, не прыйшла ў галаву думка вярнуць нас назад. Дзеля чаго? Гняздо разбурана. Мы ператварыліся ва ўзаемазаменныя шрубкі амерыканскай машыны.

Ледзьве не забыў, былі такія часы, калі жыхары Індыянаполіса размаўлялі на сваёй непаўторнай гаворцы, у іх былі свае жарты, свае легенды, свае паэты, ліхадзеі, героі, мастакі. Усе яны ператварыліся ва ўзаемазаменныя шрубкі амерыканскай машыны. Індыянаполіс стаў яшчэ адным безаблічным амерыканскім гарадком, прыстанішчам аўтамабіляў, сімфанічнага аркестра і іншых рэчаў. Ага, яшчэ і бегавой дарожкі.

Вось яно як.

Надараецца, мы з братам вяртаемся ў Індыянаполіс. Бывае гэта звычайна з выпадку пахавання каго-небудзь з родзічаў, якія засталіся. Наведалі мы Індыянаполіс і ў ліпені мінулага года, з выпадку пахавання дзядзькі Алекса Ванегута, малодшага брата нашага бацькі-нябожчыка. Гэта быў наш апошні старарэжымны родзіч, прыроджаны амерыканскі патрыёт з душой еўрапейца. Ён смела глядзеў у твар госпаду богу.

Яму было 87 гадоў. Бяздзетны. Выпускнік Гарварда. Страхавы агент, які кінуў свае справы. Адзін з галоўных за-

